УЛАДЗІМІР
КОРБАН



# НЕ НА СВАІМ МЕСЦЫ

БАЙКІ
ВЕРШЫ

## ГАРАЧАЯ ВАДА

Вячэру гаспадыня гатавала.
На прымусе вада ў каструлі клекатала,
Кіпела і бурліла бурна так,
Што пара пачала клубіцца.
Ой, дасца ўсім у знак! —
Вось пырсне на сцяну — і хата загарыцца.
Сто градусаў! — на ўвазе гэта май.
І раптам палілася цераз край!
А бацюхны! Бяда! Трывога!
Дружыннікаў, пажарнікаў сюды!
Але не адбылося ад вады
Страшэннага нічога.
Хоць дужа ўжо яна гарачая была,
Пажару ж нарабіць, вядома, не змагла,—
Змачыла толькі ў кухні ўсю падлогу,
Ды прымус удалося ёй заліць.
Вада гарачая не можа запаліць.

———

Нядаўна мой дружбак рабіў даклад.
Як ні крычаў ён, як ні намагаўся,
Ані ніхто не загараўся.
Відаць, вады было ў дакладзе тым зашмат,
Хоць і гарачай.
Не іначай.

## ЛІМОН І КАЗА

Жанчына вынесла на двор лімон,
Каб дожджыкам абмыўся ён.
Ля ганка прыгажосць такая
Красуецца, а дожджык палівае
І дрэўца маладое, і вазон.
Зялёненькае лісце аж ільсніцца.
І трэба ж тут было бядзе адбыцца,—
Аднекуль чорт прынёс казу.
Нягодніца да дрэўца падляцела,
Глым, глым — і з'ела,
Нібы звычайную лазу.
І нават не заўважыла, скаціна,
Што знішчана каштоўная была
Цытрусная расліна.
Зглынула і далей пайшла,
Нібы нічогачкі не адбылося.

---

Хіба такіх людзей ужо не засталося?
Ёсць гэтакія: уварваў, схапіў,
У зяпу запіхнуў — і рады, ззяе.
А што пры гэтым шкоды нарабіў,—
І зразумець ён здольнасці не мае.

## КРОПЛЯ МЁДУ

Пчаляр калгасны ўнука частаваў:
«Прашу вось, паспытай, унучак, мёду».
Калі ж той мёду паспытаў,
То атрымаў такую асалоду,
Што аж прыжмурыўся, нібыта кот.
«Вось гэта,— кажа,— мёд!
Талерку з'есці поўную гатоў я».
«Ну й еш, мой даражэнькі, на здароўе!»
Відаць, старому радасна было
Мядком духмяным частаваць унука.
І раптам — што за штука? —
У дзеда спахмурнела ўраз чало.
І ён драўлянай лыжкай
Па лобе ўнука ляснуў так,
Што ў момант у таго гузак
На лобе ўскочыў, нібы шышка.
«Чаго ты б'ешся, дзед!» — загаласіў унук.
«Не капай, калі мёд ясі, блазнюк.
Аблётала, напэўна, сотні кветак
За кожнай кропелькай пчала.
Ці можна ж ставіцца да працы гэтак?
Ану, зліжы ўсе кроплі са стала!»

---

Часамі сустракаешся з такімі.
У дзесяць лыжак ён у рот бы гроб,
А ўбачыць на дарозе жыта сноп,
Дык пройдзе міма, не падніме.
Ну што, парайце, з гэткімі рабіць?
Па лобе біць?

## ПЯЦЬ РУБЛЁЎ

Вавіла нейкую ўварваў халтуру.
Ці дзе напілаваў камусьці дроў,
Ці працу іншую знайшоў,
Але яму, напэўна здуру,
Даў нехта ажно пяць рублёў.
За паўгадзіны працы!
І вось з пяцёркай той ля крамы ён стаіць



І разважае: «Што рабіць?
Калі папраўдзе разабрацца,
То трэба жонцы грошыкі аддаць.
Але ж, калі паразважаць,—
Пяцёрка — хіба гэта грошы?
Што купіць жонка за яе? Галёшы
Ды чаравічкі ўнучцы на вясну?
Ці набярэ чаго на блузку?
А тут паўлітра з чацвярцінкай і закуска...
Эх, ну...»
«Давай, давай, Вавіла! —
Падтакнуў хтосьці яму,— дарэмна час не траць.
З пяцёркай жонка глупства б нарабіла.
Калі ж пяцёрку на гарэлку перагнаць,
На погляд мой,
Ты змог бы праз гадзіну стаць
Свіння свіннёй...»

---

Мараль? — Ніякай тут маралі не відаць.
А свінства поўна.
Прытым дакладна, а не ўмоўна.

# ПАД ГРЫБКОМ

Ля рэстарана пад грыбком
Сядзіць якісьці дзядзя за піўком
І выхваляецца без меры і без краю.
«Заслугі,— кажа,— я такія маю,
Што гэтымі заслугамі, дальбог,
Праславіцца на свет бы змог,
Ды не жадаю.
Вы ведаеце, колькі на вайне
Геройства праявіць даводзілася мне?
Ого! Аднойчы ў наступленні голымі рукамі танк узяў
І сам ледзь-ледзь не атрымаў раненне.
А то было, што разагнаў адзін я дзве дывізіі пяхоты!
Ледзь-ледзь не атрымаў тады я ўзнагароды,
Ды, бачыце...» — «А зараз,— хтось спытаў,—
Вы дзе працуеце? У полі? Ля варштата?
У вас камуністычная брыгада?»
Аб гэтым размаўляць «герой» не пажадаў.
Ён, піва не дапіўшы, ўстаў,
Надуўся, як індык, ні з кім не развітаўся
І з-пад грыбка падаўся,
Нібыта ўсім назло.

---

Нямала год ужо з часоў вайны прайшло.
Куём, будуем мы, а гэткі пры сустрэчы
Заўжды вярзе адно,— я біўся! Я ўзрываў! —
Як быццам толькі ён адзін і ваяваў,
А ўвесь народ ляжаў сабе на печы.
Да гераічных нашых спраў
І дакрануцца ён баіцца,
Бо тут яму няма чым пахваліцца.

## САЛДАТ

Салдат-сапёр з даяркай пажаніўся
Дый прыжыўся
У жончыным калгасе назаўжды.
Хоць сам здалёк быў хлопец малады,
Але дамоў не ехаў, тут спыніўся,
Бо сэрцам край упадабаў,
Дзе шчасце і любоў прыдбаў.
На прахалоджанне салдат не траціў часу,—
Агледзеўся ледзь-ледзь і ўзяўся працаваць.
Брыгадай будаўнічай кіраваць
Даверылі сапёру, а калгасу
Патрэбна шмат чаго было пабудаваць.
Ну што ж, сапёра праца не спужае.
Будуе ён і заўважае,
Што матэрыял дамоў цягаць
Адзін цясляр прывычку мае.
«Чакай жа,— думае,— мярзотнік, прыпяку!»
Схапіў сапёр зладзюгу за руку,
І злодзей атрымаў на ўсю закрутку.
А хутка
Ля носа наківаў і лайдаку,
Бо той гадзінамі курыў і за тапор не браўся.
А там калгасны кладаўшчык пракраўся,—
Салдат прыціснуў хвост кладаўшчыку,
З раёна запрасіўшы рэвізора.
Не дзіва, што пакрыўджаных радня
Зірнула скоса на сапёра.
Штодня
Ішлі яны са скаргамі ў праўленне.
А тут і сам калгасны старшыня
Прыняў даволі мудрае рашэнне:

Брыгаду загадаў з калгаснай працы зняць
І дом уласны будаваць,
Ды ў горадзе бліжэйшым, не ў калгасе.
        «Ні ў якім разе!» —
Адмовіўся сапёр рашуча, наадрэз.
        Вядома, старшыня ў пухір палез,
        Ашчэрыўся, надзьмуўся, і салдата
        Чакала ўжо расплата,
Бо пушчаны былі ўсе захады у ход.
        І вось сабраўся сход.
Нямала плеткароў на сходзе тым знайшлося,
        Але бяды не адбылося,—
        Салдата падтрымаў народ.

---

Калі таварыш наш, з крутой і цвёрдай воляй,
        Зладзею, махляру дае па галаве,
        То ворагаў, вядома, нажыве,
Але ў яго сяброў заўсёды будзе болей.

## ЧОРНАЯ КАШУЛЯ

Было ў Сямёна дзве кашулі.
Адну ён ганьбіў, а другую паважаў.
Суседзі часта чулі,
Як над кашулямі Сямён той разважаў:
«Адна бяда з кашуляй белай.
Ну так жа прыстае да гэтай дрэні бруд.
Ледзь апрануў — ужо яна зрудзела,
І плямы скрозь, і там і тут.
Учора юшку адчыніў, а мой сусед-млынар:
«Ты хто,— пытае,— камінар?»
Усё, што ні зрабіў, на ёй адлюстравана.
Вось чорная кашуля — гэта рэч!
Хоць ты залазь у ёй у печ
Ці ляж на ўслон зашмальцаваны,—
На ёй і плямінкі ніводнай не відаць».

---

Адзін сябе заўжды паводзіць блага,—
Што дзень, то шэраг брудных спраў.
Але яму не робіцца й заўвага.
Прывыклі ўсе да гэткіх з'яў
І бруду новага на ім не заўважаюць.
Калі ж часамі прыкмячаюць,
Што чысты чалавек ступіў у лужу раз,—
Яго цягаць пачнуць у той жа час.

## НОВЫ РЭВІЗОР

Прыедуць на завод, бывала, рэвізоры,
Засядуць у канторы
І ну гросбухі вывучаць.
Паперак перавернуць горы,—
Па тыдню ў бухгалтэрыі тырчаць.
Дырэктару ж, як кажуць, мала гора.
Да гэтакіх рэвізій ён прывык.
Калі дзе прамахнуўся кіраўнік,—
У гэтым недагляд, а ў гэтым недаробка,—
Ну, зробяць на яго налік.
І кропка.
А там і па-старому ўсё пайшло.
А іншы раз і так было:
Хоць невялікі
Дырэктар баль даваў,
Закусваў з рэвізорамі і выпіваў.
І ў акце ўжо ніякія налікі
Не значыліся пасля гэткіх мер,
Бо ўсе няроўнасці гарэлачка змывала.
Ды раптам нечаканае настала:
Гарэлкай рэвізора ўжо цяпер
Пасля рэвізіі не накачаеш,
Бо справу маеш
Не з адной
Чубатай альбо лысай галавой,
Што толькі ўмела на лічыльніках пашчоўкваць суха.
Узяўся калектыў рэвізаваць.
А ён, шматвокі, да ўсяго дапяць
Заўсёды здолее, не толькі да гросбуха.
Ён можа зазірнуць і ў карані,
Прычыну адшукаць, калі дзе непаладка.

...Чаму на зборцы, скажам, не ўсё гладка?
З пачатку месяца бываюць дні,
Што зборшчыкі гуляюць,
А потым часу чхнуць не маюць,
І твару выцерці няма калі, ані.
Чаму такое робіцца? У чым прычына?
А вывад просты — штурмаўшчына.
Дырэктар, меры той жа час прымай!
...У экспедытара мізэрная зарплата,
На ўскрайку ж горада — на два паверхі хата...
Чакай, чакай!
Адкуль з'явілася такое дзіва?
І не схавалася ад калектыва.
Адразу выкрылі, што гэты прайдзісвет
Пусціў налева
Машыну цэглы, дзве машыны дрэва
І шыферу тры тысячы лістоў пусціў услед.
Дык вось і вырас у яго палац двухпавярховы.
Ізноў дырэктару завода непакой,
Бо ў гаспадарцы ў наяўнасці ўсе ўмовы
Для фортэляў дзялка з нячыстаю рукой.
Наладжвай справы,— калектыў такога
Не можа ў працы дапусціць.
Кракчы, брат, не кракчы, а трэба штось рабіць.
Трывога!

---

Трывожна гэта толькі для дырэктара благога.
А добры — ў калектыў душой ўрастае сам,
Бо ведае, што там
Яму заўжды падтрымка ў працы, дапамога.

## НІЧЫЯ

Бухгалтар Селівей і планавік Ігнат у шахматы гулялі.
Адзін на аднаго старанна наступалі.
Адзначыць тут патрэбна, што Ігнат
Меў нейкі шахматны разрад
І ў выйгрышы зусім не сумняваўся.
А Селівей не паддаваўся.
«Вось я цябе,— казаў,— прыцісну, брат!
Сініцай у мяне ты заспяваеш.
Ага, ты пешачку маю здымаеш?
Дык мы твайго слана кульнём!»
«А мы,— сказаў Ігнат,— канём
Аб'явім шах. Ну што? Заела?»
«А мы твайго каня за храпу возьмем смела,
Прыстукнем каралевай. Дзе ж твой шах?»
«Ах, каб ты спрах!
Мой план, не раз правераны, сарваўся».
«Бацвіннік у такім становішчы здаваўся.
Глядзі — з'ядаю і туру тваю.
Няблага, атрымалася, няблага!»
І хоць была у Селівея перавага,
Ды партыю звялі яны... у нічыю.
Што ж здарылася ў іх? Змяніліся на дошцы ўмовы?
Ды не! Прыйшоў начальнік установы.
А партыя гулялася якраз
На працы і ў рабочы час.

---

Што зробіце,— начальнік быў суровы.
Але часцей на працы ў нас
Бывае,
Што й сам начальнік партыйку згуляе...

# НАЗЛО

Якісьці домакіраўнік
Да неахайнасці прывык,
Што проста гора.
Абураны былі ўсе жыхары.
Балота скрозь на ўсім двары,
Куды ні кінеш вокам — смецця горы.
Пісалі пра яго ў райвыканком,
Звярталіся ў рэдакцыю газеты,
А ён плюе на гэта.
Ну што ты зробіш з лайдаком!
Не прыбірае двор, дый годзе.
І вось аднойчы вечарам на сходзе
Рашылі лайдака сурова пакараць.
Пастанавілі: заўтра, пасля працы,
Усім з лапатамі сабрацца
І двор, яму назло, прыбраць,
Правесці на двары азеляненне,
Каб сорам дапякаў нягеглае стварэнне.
Пастанавілі — і зрабілі так.
Хай ведае лайдак!

---

А што б, уласна кажучы, было,
Каб скрозь рабілі так, нядбайнікам назло?

## КАШМАР

Калгасны аграном Цімох
З газетай на канапу лёг
Пасля абеду адпачнуць хвіліну.
І толькі ён газету разгарнуў,
Туды, сюды зірнуў,
Як раптам — шась! — у хату да яго дзяўчына.
Прыгожая, на галаве вянок,
А голас як званок...
Нібы матыль к Цімоху падляцела
І ля яго на крэсла села,
Дый кажа: «Я паваражу.
Пасунься, карты дай раскласці.
Вось бачыш — туз віновай масці.
Нядобра гэта, я табе кажу.
Што знача ён? — Пустое поле.
Ты мінеральнае ўгнаенне занядбаў.
На станцыі ляжыць яго даволі,
А ты зіму праспаў
І не вазіў яго, адзначым проста.
Не рыхтаваў ты і кампосту.
Напэўна, спадзяваўся, дружа мой,
На вераб'іны гной?
Разлікі на ўраджай якія маеш?
Скажу, таварыш агракіраўнік:
Сам-пшык
У гэтым годзе атрымаеш,
Не можа урадзіць спусцелая зямля.
Тут і без карт усё вядома.
Ой, будзеш мець ад караля
З райвыканкома!
Чакай свайго, лайдак! Ляжы, ляжы...»

«Ты хто такая, мне скажы?» —
Нарэшце аграном спытаў нясмела.
«Дзівак! Не пазнаеш вясну?»
Цімох аж закрычаў са сну,
Газета на падлогу паляцела.
Ускочыў ён, сядзеў, прыйсці ў сябе не мог.
А тут якраз, неспадзявана,
Сам старшыня райвыканкома на парог.
Сон спраўдзіўся даволі нечакана.

---

Параду я хачу такім Цімохам даць:
Каб вы спакойна і вясной адпачывалі
І сны кашмарныя каб вас не турбавалі,
Зімой патрэбна аб вясне як можна болей дбаць.

## СВЯТЫ

Палкана старасць даканала.
Сагнуўся ён, падціснуў хвост, сапсеў,
Аглух, як палка, палысеў.
І сілы ўжо не стала.
А бывала,
Умеў ён у жыцці узяць разгон.
Дзе Шаўка, Жучка, Мушка — там і ён.
І трэба тут дадаць — ніколі не губляўся.
Там возьме напралом,
А тут вільне хвастом...
Палкан часамі нават выхваляўся:
«Не верыце? Як хочаце! Дальбог,
Я маю сотні перамог!»
Украсці смачнае ўхітраўся,
Знянацку ірвануць за пяты мог,
Калі хто зазяваўся.
Кажух пашкуматаць было не навіна.
Здаралася схапіць і бізуна,
Ды гэта не ў залік. Цудоўна забаўляўся!
І вось прыйшла бяда. Нібы таран сухі,
Рашыў замольваць ён грахі.
На прызбе сядзе, ўздыме пысу ў неба
І вые ноч на месяц залаты.
«Святы! —
Заенчыла Фідзель,— павагай шчырай трэба
Палкана агарнуць. Ён моліцца за нас
Ад вечара да рання.
І костак не грызе, пакінуў заляцанні...»
(Яна з Палканам у свой час
Нямала
На сметнішчах пабалявала...)

Аднойчы енк Фідзелін чулі бараны
І кажуць: «Хіба што дурны
Паверыць можа ў гэткага святога.
Ён костак не грызе?— Зубоў няма!
А заляцанні...— хто ж такога
Захоча пакахаць? — падумай ты сама.
Таму
Яму
І рупіць стаць святым,
Бо і на старасці ж патрэбна нешта есці».

---

Між тым
І да маралі мы дайшлі нарэшце.
Палкан... Не будзем мы вазіцца з ім.
А між людзей вось так бывае.
Распуснічае іншы ўсе часы,
А пасівеюць валасы —
Ён каяцца, маліцца пачынае.
І дзіўнае: Чаму? Даруйце, невядома,
А верань іншы раз такому!

## КАЗА І ПЕГАС

Прыйшла ў рэдакцыю Каза,
Прынесла на дзве тысячы радкоў паэму
На тэму:
«Хто супроць новага, а я, вядома,— за!»
Паэму прачыталі,
Пацiснулі плячмі,— не навіна.
Не так ужо й напісана яна,
Не ейныя радкі кагось усхвалялі.
Але надрукавалі,
Бо мала паэтэс у нас,
А твор якраз
Хоць і слабы, ды тэматычна к часу.
І падсадзілі паэтэсу на Пегаса.
Ды раптам занатурыўся Пегас.
І брыкацца пачаў і свечкай узвівацца,
Такія фортэлі выкідвае, што жах.
Аж стала зелена ў Казы ў вачах,—
Ніяк ёй на Пегасе не ўтрымацца.
І вось заенчыла Каза: «Не, не!
Пегаська, не жартуй, баюся.
Не брыкайся, мой любы, я ж звалюся.
Чаму не хочаш везці ты мяне?»
А той сваё — іржэ ды скача: «Скіну!
Даволі коннікаў сядала мне на спіну,
Якіх я ўсёй душой любіў.
Я ведаў Багдановіча,— вось гэта коннік быў!
Вазіў я Коласа, Купалу,
І Цётка на мяне сядала,
І зараз маладых важу нямала,
Бо я люблю іх, а Казу,
Дальбог, не павязу!

І як ты сесці на мяне пасмела!»
Брык-брык! — і паэтэса загрымела.

---

Ад бездары карысці ні на грош.
Паэзія такіх без жалю адмятае.
Хто талент мае,
Той на Пегаса сядзе сам.
І дурань той, хто бездары дапамагае.

## ХІТРЫКІ

У цырку, на чэмпіянаце,
Каб першынства заваяваці,
Сабралася даволі шмат барцоў
З усіх канцоў.
І вось спаборніцтвы распачаліся.
Хто спрыт і сілу меў, той верх заўсёды браў,
А хто на дыване круціўся, хітраваў,
Той апынаўся ўнізе.
Ніколі ў барацьбе не трэба хітраваць.
Але адзін барэц рашыў паспрабаваць.
Калі адчуў, што супраціўнік хвацкі
І што змагацца з ім — не цацкі,
А ў сілах у сваіх прыкметна слабіна,
Ён, стоячы ў партэры,
Прыняў такія меры:
Папоўз вужакай з дывана.
Спынілі барацьбу, на цэнтр клічуць пару.
(А гэта ўжо якраз палёгка для барца.)
Свісток. Прыціснуў супраціўнік малайца,
А той да краю зноў паўзе, пачвара.
І потым гэтак раз у раз.
Ад шчырай барацьбы ўхіляецца ўвесь час,
Паўзці на край — у яго адны заняткі.
Ды супраціўнік момант падабраў,
Злаўчыўся і барца без хітрыкаў паклаў
Прыёмам пэўным на лапаткі.

---

Запомніць мусіць з нас любы:
У справах той перамагае, хто наступае,
А хто ўцякае з барацьбы,
Ніколі поспехаў не мае.

# МУДРАЕ РАШЭННЕ

Ваўкі-пачвары
Злаўчыліся прабрацца у кашару
І дзвюх авечак звалаклі адтуль.
Не жартачкі! Трывога паднялася.
Рамонт кашар наладзілі ў калгасе.
Прызначылі да іх начны патруль.
Наглядчыкі прынеслі дубальтоўкі.



А сам загадчык фермы дзед Пракоп
Шукаць пачаў падкоп.
«Ваўчуга,— кажа ён,— драпежнік лоўкі,
І пад сцяной пралезе, хуліган.
Я патрабую выдаць мне наган!»
Намеснік жа ягоны, Хвёдар, ліча:
«Патрэбна запрасіць з раёна паляўнічых
І ўраз пазнішчыць сукіных сыноў,
Бо гэтай непрыемнай з'явы
Не ліквідуеш без аблавы».
Было яшчэ нямала прапаноў.
Усё ўлічыўшы, на паседжанні праўлення
Прынялі добрае рашэнне:
«Калі ад сённяшняе даты
Хоць хвост адзін украдзе воўк праклятьі —
З наглядчыкаў нястачу спаганяць.
Пракопа ж — з працы зняць».

———

З тых пор — ваўкоў і блізка не відаць.

## ВАЗАК І ХЛОПЦЫ

У лес ішлі два хлопцы па грыбы
І селі адпачыць каля дарогі.
Гадоў па дваццаць ім, але за рогі
Быка з іх мог бы паваліць любы.
Сядзяць сабе, пакурваюць на пару.
А па дарозе ў гэты час якраз
Вазак сельпоўскі вёз тавары.
І трэба ж здарыцца было нядобра так! —
На роўным месцы ліха адбылося,—
Зляцела кола з восі.
Ірвецца, напінаецца вазак.
Патрэбна воз падняць, бо кола не надзенеш.
А як цяжар падняць той аднаму?
І так бярэцца ён і так. Аж моташна яму.
А хлопцы кпяць: «Пацееш!
Не ўмееш працаваць, хоць шмат гадоў жывеш.
Не закруціў, разява, гайку
І ледзь не абярнуў з таварам таратайку.
Цяпер вантробы, галаган, ірвеш?
І хто з таварамі цябе паслаў, старога?»
Зірнуў на іх вазак і плюнуў на дарогу.
Пакутваў, пэўна, доўга б з возам ён,
Ды надышоў пажылы паштальён.
Памог ён вазаку, і рушыў воз памалу.
А хлопцы? — Рогат узнялі
І па грыбы пайшлі.
Здарэнне гэта іх чамусь не хвалявала.

---

Карысць ад кпінаў не ідзе,
Дапамажы ў бядзе!

## САЛАТА

Муж песціўся яшчэ пад коўдрай у нядзелю,
А жонка ўстала ўжо з пасцелі.
«Салату,— думае,— зраблю «Вясна».
Вось кніжыцу ўзяла яна
«Аб смачнай і здаровай ежы»,
Старонку адпаведную знайшла
І дзейнічаць
па кніжцы пачала:
Дзве бульбінкі, гурочак свежы,
Цыбулю, памідоры, бурачок,
Салаты маладой пучок,
Дзве морквінкі,
яечкі і радыску
Старанна пакрышыла ў міску,
Смятанай зверху абліла,
Ды солі, кропу дадала,
Расклала па салатніцах. Здзіўленне!
«Напэўна, будзе аб'ядзенне! —
Падумала жанчына.— Цар бы еў!»
Устаў нарэшце муж і да стала падсеў,
З відэльцам над салатніцай схіліўся,
Салату калупнуў,
Глытнуў
І ледзьве з крэсла не зваліўся,
Ажно пачырванеў, бядак.
«І што ты тут,— крычыць,— зрабіла!
Салата гэта альбо мыла?»
«Па кніжцы ж гатавала я, дзівак!»
«І з кніжкаў нарабіць магчыма браку.
Напісана ж у ёй:
«Ліць воцату па смаку».

А дзе язык у гэты час быў твой?
Не паспытаўшы, нарабіла асалоды!»

---

А вывад кароценькі мой:
Інструкцыю таксама з галавой
Патрэбна прымяняць заўсёды.

## БУРА

Заняўся ясны,
летні дзень.
Умыла сонца твар у моры,
Расправіла праменні на прасторы.
На пляжы тысячы людзей—
Капаюцца ў пяску, на сонцы загараюць,
У моры плаваюць, ныраюць.
Нясе здароўе дзень такі.
На новую шаланду рыбакі
З уловам невад выбіраюць.
Імчацца катэры. Вялізны цеплаход
Ідзе ў далёкія краіны,
Вязе станкі, машыны.
Узняўся ў неба гідрасамалёт,
А вадалаз на дно спусціўся смела.
Ды раптам —
мора пачарнела!
І нават паўгадзіны не прайшло,
Як грозна ўсё наўкола загуло,
Завыла, загрымела.
За хваляй хваля, нібыта гара,
На бераг налятае з ходу.
Хаваюцца у гавань параходы,—
Ад буры не чакай дабра.
Там знішчыла баркас,
А там дзевятым валам
Шаланду з якара сарвала,
Вадой салёнай баржу заліло...
І шмат яшчэ бяды было,
Пакуль на моры бура бушавала.
Такое мора ўжо,— бывае гэтак з ім,—

Спакойнае — нясе карысць усім,
А разбушуецца — адна навала.

---

На жаль, яшчэ такіх работнікаў нямала.
Нядрэнны кіраўнік, працуе будзь здароў,
Пакуль без валтузні за справы ён бярэцца.
Ды — раптам — узарвецца
І наламае дроў.

## МУЗЕЙНЫ ЭКСПАНАТ

Апоўначы ў музеі,
Калі захроп старэнькі вартаўнік,
Такая здарылася дзіўная падзея,—
Звычайны лапаць лыкавы ўзняў крык:
«Ну хто цяпер сказаць пасмее,
Што я тут кожнаму не брат!
Бо хто я зараз? — Экс-па-нат!
Такі ж, як швейная аршанская машына,



Альбо барысаўскае піяніна,
Ці віцебскі, вядомы ўсім, дыван».
Ды ў спрэчку мінскі трактар умяшацца
Рашыў і заявіў: «Падман!
Табе няма чым задавацца,
Ты б лепей ужо змоўк.
Вось магілёўскі штучны шоўк
Ляжыць спакойны і маўклівы,
Але якія перспектывы,
Якая будучыня у яго!
Ого!
А ты... Ляжыш на стэндзе,— знак галечы,—
На памяць аб нядолі чалавечай».

## НАЖНІЦЫ

Дэталі адкавалі
З неіржавеючае сталі.
Пакоўкі аперацый шмат прайшлі.
Нарэшце іх загартавалі
І сабралі.
І так, нажніцы зроблены былі.
Выдатныя! З цудоўным бляскам!
А вострыя, як кажуць, што агонь!
Бяры, кравец, іх у далонь
І крой шаўкі і крэпдэшыны, калі ласка!
На справе ж атрымалася не так.
Калі яны ў майстэрню паступілі,
То цяжка расказаць, чаго панарабілі.
Што ні пакрояць — брак.
Дзявочую сукенку загубілі,
А некаму саліднаму штаны
Пакроілі нядобра так яны,
Што і трусоў не атрымалася з шавёту.
Паганілі ўсялякую работу.
За што ні возьмуцца — ну хоць ты плач! —
Цудоўны матэрыял пакрэмзаюць на латы.
...Нажніцы ж, так сказаць, былі не вінаваты,
Бо імі працаваў кравец-партач.

---

Любой рабоце грош цана,
Калі рукамі зроблена яна
Няўмелымі, хаця і маладымі.
Таму на інструмент не наракай,—
Да працы, дружа, прывыкай,
Каб рукі сталі залатымі.

## ГЛУХІ

Уселясны агульны злёт
Аднойчы вырашыў, дзе Крот
Пракладвае свае траншэі,
Дзе спраўнаму Бабру будынкі будаваць,
Дзе Барсуку нару капаць
І дзе капаць зусім ніхто не смее,
Каб сакавітай пашы не псаваць.
Калі рашэнне ўсе ўхвалілі,
Драздам рахманым даручылі
Па лесе той жа час яго і абвясціць.
Прытым — нікогачкі не прапусціць,
Каб іншыя пасля не наракалі.
Дразды папрацавалі
Як мае быць —
Да кожнага рашэнне давялі.
Назаўтра ж зранку
Усе навокал здзіўлены былі:
Ля дуба Дзік скапаў палянку!
Ён тут жа ў абарот узяты быў:
«Ты што зрабіў?!» —
Спыталіся ў яго на месцы ў абурэнні.
«А я не чуў ніякага рашэння,—
Злачынца адказаў,— бо я на слых тугі».
«Хлусня! Хлусня! — Дразды ажно прыселі.—
Ды мы ўсім вушы прадудзелі!»
Паклікалі Глушца. «Вось ты, глухі,
Ці чуў, як мы рашэнне абвяшчалі?»
«Га? Што? — спытаў Глушэц.
— Ага, вы мне казалі.
Пра гэта ў лесе ведаюць усе».

А Дзік сваё нясе.
І колькі там яго ні прыцiскалі,
Сцвярджае, што не чуў. «Дык ведай жа цяпер!» —
Яму каля лыча рашуча наківалі.
Назаўтра ж зноў разрыў палянку гэты звер.

---

Нямала свінтухоў яшчэ між нас жыве,
Гатовых іншы раз хадзіць на галаве.
А цапні за каўнер — прыкінецца глухім,
Законаў ён не чуў,— ну што ты зробіш з ім!
Пара ўжо, да бузы ахвочым,
Рашуча і ў каршэнь даваць усім,
Бо самы той глухі, хто чуць не хоча.

## КРАТОВА ДАПАМОГА

Прабраўся нейкі шкоднік у гарод,
Падточвае карэнне.
Пажоўкла ўсё, няма збавення.
І вось за справу ўзяўся крот.
«Я,— кажа,— знішчу гэтую брыдоту,
Калі пушчу сваё усё умельства ў ход!»
І распачаў работу.
Паклікаў ён сяброў. Старанна малайцы
Ваююць усю ноч, капаюць
І дзе нягоднае стварэнне сустракаюць,
Дык там яму й капцы.
У выніку крацінага старання
За ноч быў шкоднік знішчаны зусім.
І вось настала ранне,
Прыйшлі гаспадары, і стала млосна ім,
Бо зрылі грады ўшчэнт краты.

---

Дабавіць засталося мне нямнога.
Усякая бывае дапамога:
Адна — карысць прыносіць сапраўды,
Другая ж — толькі жах,— нацерпішся бяды.

## КРАЙНАСЦЬ

Ад нейкага красавіка ці мая
У кнігу скаргаў запісаў кліент адзін:
«Чакаў я дваццаць пяць хвілін,
Пакуль афіцыянтка Мая
Надумала мне боршч падаць.
А зараз вось рагу чакаю.
Прайшло хвілін, напэўна, сорак пяць,
А я яшчэ не дачакаўся»,—
І распісаўся.
Для Маі непрыемнасці было!
Дзяўчына вывады зрабіла,
Да працы падыход змяніла.
І вось два месяцы прайшло.
Па-новаму ўжо Мая працавала.
А скарга зноў яе спаткала,
І скарга дужа слушная была:
«Мне Мая ўсё адразу падала,
Хвіліначкі не пачакала.
Пакуль я суп гарачы з'еў,
Дык шніцэль адубеў,
Марожанае ўсё растала,
А чай
Хоць ты ў памыйі вылівай».

---

Не ў Маі справа тут. Прызнацца,
Бывае, што салідны кіраўнік
Ад крайнасці да крайнасці прывык
Хістацца,—
Сярэдзіны няма ў ягонай працы.

## КУМ І ФОТААПАРАТ

Да кума трапіў фотаапарат.
«Вось гэта мне і трэба акурат!
Даўно шукаў я цацачку такую.—
І вырашыў: Куму сфатаграфую!»
Бяжыць ён да кумы.
А тая выйшла на сустрэчу.
«Стой, стой! — крычыць ёй кум,—
Цябе [redacted] ўвекавечу!
Стань роўненька, кума.
Вышэй галоўку, плечы».
Паставіў апарат, схіліўся,
Вялікай посцілкай накрыўся,
Зірнуў у шкло і ледзь не адкусіў язык...
«Трымай,— крычыць,— кума, спадніцу,
Калі ўжо стала ты ўніз галавой!
Дзе сорам твой!
Знайшлася мне штукарка, жартаўніца».
Адкінуў посцілку, глядзіць —
шумець прычын няма,
Звычайна, на нагах, стаіць кума,
Спакойна, ціха.
Ён зноў да апарата... Што за ліха? —
Не бачыў гэткага, пакуль жыве,—
Ізноў кума стаіць на галаве!
«Напэўна, апарат мой сапсаваўся.—
Кум не на жарты раззлаваўся,
І ажно вылаяўся ён са смакам.—
Мне ж сорамна займацца бракам!
Я гэтага з маленства не люблю.
Ану, пастаўлю апарат я на зямлю,
А сам над апаратам стану ракам

Ды зверху зазірнуць спрабую ў шкло».
Нічога не дабіўся небарака,
Бо ведаў у яго належных не было.

---

Няўмекі гэткія ёсць паміж намі —
Усё здаецца ім уверх нагамі.

## МЫШАСТЫ І КАЗЁЛ

Мышасты конь за дзень напрацаваўся
І выйшаў адпачыць.
Са смакам пацягнуўся, пакачаўся.
«Цудоўна жыць!
Якая прыгажосць у полі!
Паветра — мёд. Надыхаешся ўволю.
А колькі кветак і травы наўкол.
Што можа быць прыемней адпачынку!»
Брык, брык — і скокнуў у лагчынку,
Але спыніў яго казёл:
«Мышасты, пачакай хвілінку.
Ты нешта тут сказаў — я штось не разабраў».
«Я адпачынак усхваляў,—
Прыемна паразмяць натруджаныя косці,
Калі прытым навокал рай».
«Чакай, чакай,
Не бачу я ні раю штосьці,
Ні іншай прыгажосці.
Ну што, скажы ты, ў адпачынку тым?
Занятак гэты я лічу пустым.
Стаяць ды пазіраць?
Я тут пасуся ўжо ўсё лета,
І мне абрыдла гэта».

---

Заўсёды разважае так
Лайдак.
У логіцы ж казла, прызнацца,
Якісьці сэнс усё-ткі ёсць:
Якая можа быць у адпачынку прыгажосць
Без папярэдняй працы?

## БАС І ТЭНАР

У оперы было два спевакі —
Адзін пеў тэнарам, другі пеў басам.
Дык бас на тэнара глядзеў злавесна часам.
«Падумаеш,— сіпеў,— мастак які!
Ну што з яго? Вішчыць, а не спявае.
І чым ён слухачоў заваяваў?»
А той цудоўна ўсё ж спяваў.
Бывала, Ленскага на сцэне грае
Ды як зацягне мілым галаском:
«Што дзень наступны мне рыхтуе!»
У зале — гром.
Сярдзіты бас адно заўсёды чуе:
«Цудоўна!», «Біс!», «Выдатна!», «Салавей!»,
А бас пачне спяваць — ужо слабей.
І пляскаюць ужо не так старанна.
Ён грае Грэміна, зацягне іншы раз:
«Страшэнна я люблю Тацяну!»
А бісаў не чуваць. Пасрэдны быў той бас.
Але і тэнара бяда сустрэла нечакана.
Ці быў тады ў яго благі настрой,
Ці іншае яго сустрэла ліха,
Але ён заспяваў чамусьці вяла, ціха
Дый «пеўня» падпусціў у арыі сваёй.
Па-свойму й слухачы на спеў рэагавалі —
На біс яго той раз не выклікалі.
Вось бас узрадваўся, ну проста божа мой!
«Ну й сеў у лужу! Вось дык аплявуха!
Правал у тэнара — пардон!»
«Дарэмна ты сіпіш,— заўважыў барытон
Даволі суха.—
Ну што ж, сарваўся зараз ён.

Відаць, была ў яго прычына.
У працы ў кожнага бывае часам брак.
Наогул жа — выдатны ён спявак,
Таленавіты майстар, малайчына.
А тое, што ў яго на сцэне сёння быў
Частковы зрыў,—
Драбніца.
І майстар можа да пасрэднасці спусціцца,
Ды ён пакажа зноў сябе ў свой час.
Табе ж, пасрэднаму, ў жыцці і раз
Да узраўню ягонага не ўзвіцца.
На тэнара табе не варта наракаць.
Ты б лепей сам імкнуўся майстрам стаць».

---

На майстра [redacted] не раіў бы злавацца.
Карысней на яго раўняцца.

## БАРБОСАВА ПРАЦА

У пушчы коні лес к дарозе тралявалі.
Нарэшце наступіў абед.
Вядома, вазакі памочнікаў як след
Падсілкавалі,
Звадзілі да крыніцы напаіць
І да саней папрывязалі адпачыць.
Вось коні і адпачывалі.
К Мышастаму на сані ўзлез Барбос,
Утульна лёг і кажа: «Ну, напрацаваўся!»
«А колькі лесу на дарогу ты завёз?» —
Мышасты абазваўся.
«А я тралёўкай не займаўся.
Але ж папрацаваў! Каб [redacted] пацець умеў,
То, пэўна б, горш ад вас упрэў».
«Дык чым займаўся ты?» — «Круціўся».
«Круціўся?! — Вараны здзівіўся.—
Навошта ж гэта ты рабіў?»
«Я ведаю, чаму ён так стаміўся.
Ён сам сябе за хвост лавіў».

---

І круціцца вось так другі, здаецца — горы зверне.
Карысці ж з іх — на макавае зерне.

## ГАЛАСАВАННЕ

«Ну як, ці ажаніўся ты, Пятрок?
Табе ж, здаецца, падабалася Анiся».
«Ды не, браток,
Па галасах мы не сышліся».
«Галасавалі? Глупства не пары!»
«А вось жа сталася:
Вядома «за» узняў руку стары,
Старая «супроць» аказалася,
А маладая... «устрымалася».

---

Узнімуць іншы раз
У нас
Пытанне
І ну спрачацца, ну галасаваць,
Хаця, каб вырашыць яго, не трэба раздзімаць
Ні спрэчак, ні галасавання,
Бо могуць вырашыць пытанне тое
Двое.

## КОТ І ТХОР

У курніку, хоць Кот бываў там зрэдку,
А вось жа скінуў жэрдку.
А жэрдкай той пашкоджана было
У курыцы рабой крыло.
Вядома, гэтай справе
Належны дадзены быў ход,
І Кот
Сядзеў на адпаведнай лаве.
Дадаць патрэбна, што ў бядзе
Быў Кот не адзінокі:
На лаве разам з ім сядзеў Тхарок.
Ім пад шумок
Загрызен певень быў цыбаты, жаўтабокі.
Асуджаны яны.
І прыгавор чытаць
Пачаў суддзя спакойна, памяркоўна:
«Кату — даць год... умоўна.
З Тхара — дзве шкуры зняць».
«Ая-я-яй! — заенчыў Тхор.— Няроўна
Вы нас рашылі пакараць!
У нас жа, калі хочаце, віна
Адна!
Я пеўня ўкраў, ён курыцу знявечыў.
Дык і судзіце нас па-чалавечы.
Што мне адмералі, дык тое ж і яму.
Саджайце нас абодвух у турму».
«Чакайце! —
Сказаў суддзя.— Не вам пратэставаць.
Вы на Ката, даруйце, не ківайце.
Яго да вас ніяк не прыраўняць.
Выпадак жа ў яго адбыўся

Няшчасны, так сказаць.
А вы жывое прызвычаіліся рваць».

---

Патрэбна даравац
Таму, хто памыліўся,
А ворага — бязлітасна караць.

## СІНЯК

Міхась рамантаваў у спальні дзверы.
Замок апошні час чамусьці заядаў.
Прыгнуўся да замка ён, разглядаў.
А жонка ў кухні ладзіла вячэру.
Не бачыла яна, што там рабіў Міхась,
І нечакана ў спальню — шась! —
Патрэбу нейкую забегчы ў спальню мела.
У Міхася ажно ўваччу сцямнела,
Бо адхапіў дзвярмі па скроні так,
Што расцягнуўся на падлозе.
Ажно пад вокам той жа час набег сіняк.
Якоча бедны. Жонка ж у трывозе,
Сцюдзёны к сіняку кладзе пятак,
Хвалюецца — зрабіла ж ненарокам,—
І так, і гэтак леча бедака.
...На працу раніцою да станка
Міхась прыйшоў з падбітым вокам.
«Ого! Сіняк выдатны адхапіў,
Па п'янцы, як відаць!» — сусед здзівіўся.
«Ты ж ведаеш — ніколі я не піў».
«Са мной не піў... Дык з кім жа ты напіўся?»
«Кажу табе, што не.
Няшчасце ж у мяне:
Учора жонка...» — «З жонкай біўся? —
Падсунуўся другі сусед.—
Падсыпала яна табе як след!»
І пакацілася па цэху:
«Напіўся! Хуліган!» — Міхась аж змок.
Пра дзверы расказаў і пра замок,
Ды выклікаў расказам буру смеху.
Не вераць сябрукі, чаму ён з сіняком,—

На довады яго — адно, што рагаталі.
А дні праз два паклікалі ў цэхком
І там — ха-ха-ха-ха! — ля носа наківалі.

---

Учынкі іншы раз не роўнай меркай мерацць.
Хоць ты й не вінават, а рады не дасі.
Прычэпяць блямбу — і насі.
Прытым, чым больш апраўдваешся, меней верацць.

## СЛЁЗЫ

Апоўначы ўзнялася навальніца.
І трэба ж так было адбыцца,
        Што перуном
Калгасны свіран запаліла.
Усё сяло пажарам асвяціла.
Убачыўшы святло пажару за акном,
Ударылася ў слёзы Паўлючыха.
З хаціны выбегла, ля веснічак стаіць
        І залiваецца, крычыць:
«А бацюхны! Няшчасце, ліха —
        Дабро калгаснае гарыць!»
Бягуць па вуліцы жанчыны і мужчыны,
Хто з ломам, хто з рыдлёўкай, хто з багром,
        А хто з вядром.
Да свірна валакуць пажарную машыну.
А Паўлючыха зноўку «ой!» ды «ай!».
Тут і падбег к жанчыне Мікалай.
«Паварушыся,— закрычаў,— лайдача!
Усе спяшаць ліквідаваць бяду,
А ты стаіш ды вочы квасіш.
        Бяры вядро, насі ваду!»

---

Слязьмі пажару не пагасіш.

## ВАВЁРКА І ДЗІКАБРАЗ

Раз
Нейкі дзікабраз
У лесе затрымаў вавёрку.
«Ты,— кажа,— бегала да барсука у норку.
А ён — хе-хе-хе-хе! — вядома, халасцяк...»
«Ды як жа так! — Ажно прысела тая.—
Была ў мяне прычына не малая.
Начальнік захварэў, а я як сакратар
Газеты й каляндар
Занесла да яго па абавязку».
«Ты не хвалюйся, калі ласка,—
Хіхікаў дзікабраз,— пажартаваць хачу.
Ды я маўчу, маўчу, маўчу...»
Размове б і канец, але раптоўна збоку
Нячысцік тут прынёс сароку.
А тая ж зброэша ўваччу,
У сто разоў прылжэ к таму, што чула.
Па лесе крыламі яна махнула,
Разносячы вавёрчыны грахі.
«Чы-чы-чы-чы!» — глушцу, яноту, гарнастаю.
Назаўтра ж і пайшло ад краю і да краю:
«Вавёрка — хе-хе-хе!..», «Вавёрка — хі-хі-хі!..»,
«Начальніка не забывае!..»
І так жа дапяклі,— няма куды падацца.
Ну як тут давядзеш, што гэта ўсё мана?
І са слязьмі яна
Рашыла ў лес суседні перабрацца.

———

Гаворачы аб кодэксе маральным,
Я к вываду прыходжу зноў і зноў,

Што трэба ўсіх балбатуноў
Рашуча браць за храпу, спецыяльна
Займацца імі і не дазваляць
Людзей сумленных брудам абліваць.

## ЧОРНАЯ БЯДА

Аднойчы ехалі ў вагоне дамы.
Адна з дзіцём была між іх.
Малы прыціснуўся да мамы
І пазіраў на ўсіх.
Прыгожы, чорненькі, курчавы,—
Відаць, што хлопчык быў рухавы,
Але сядзеў спакойна ён:
Цягнік, напэўна, і вагон
Былі ў жыцці дзіцячым новай справай.
«Паслухайце! — спытала тут адна з жанок.—
Вы белая, а ваш сынок,
Даруйце, нібы чыгунок.
І як такое можа утварыцца?»
«Зусім няма чаму дзівіцца,—
Сказала маці й на паліцу
Зірнула, дзе пад столлю дагары
Адпачываў мужык яе стары.—
І з вамі можа гэткае здарыцца.
Калі я хлопчыкам цяжарная была,
Аднойчы лесам я ішла —
Збірала спелыя суніцы.
Вось бачу з-за куста выходзіць чалавек.
Я век
Не бачыла такога чалавека:
Зарослы барадой ад шыі да павекаў!
Я так спужалася тады
Ягонай чорнай барады,
Што ледзьве ў непрытомнасці не ўпала.
Але ўсю сілачку сабрала
І ну ўцякаць ад чорнай той бяды!
Аж сцежка пад нагамі застагнала.

Бягу, не дыхаю, а ён за мной,
Трасе сваёй кудлатай барадой...
Я за асініну — ён следам,
Я у арэшнік — скок! — і ён туды...
І ледзьве я ўцякла ад чорнай барады.
І вось, спалоханая дзедам,
Я й нарадзіла хлапчучка,
Як чорнага грачка».
«Магчыма...— усміхнулася суседка.—
Цікавы выпадак і рэдкі.
Але, здаецца мне, між іншых спраў,
Што вас той чалавек тады... дагнаў».

---

Я пра такіх людзей размову тут вяду,
Якія, каб схаваць уласны грэх,
Наспех,
Людзям на смех
Ілгуць пра «чорную бяду».

## СМЕЦЦЕ

Калі Марына хату падмятала,
Выносіць смецце муж не дазваляў.
«Навошта,— ён казаў,—
Нам так рабіць, каб вуліца ўся знала,
Што ў хаце ў нас было?
Напрыклад, гэта шкло.
Мы пасварыліся, люстэрка ўпала...
Ды не было ж скандалу!
А людзі ўбачаць аскалубкі, і пайшло,
Зазвоняць — біліся, вядома!
Не, смецце вынасіць не трэба з дому».
Марына супярэчыць не магла,
Сварыцца з мужам не жадала
І хату прыбіраць наогул перастала.
А месяцы праз два так хата зарасла,
Што і зайсці ў яе агідна стала.
Пылішча,
Павуцінне на кутах,
Анучы скрозь валяюцца, апоркі,
Лупіны розныя ды коркі,
Балота ля парога — проста жах! —
Ад бруду не відаць падлогі.
Аднойчы гаспадар нагой на нешта стаў
І так выдатна ўпаў,
Ажно задзёр угору ногі.
Набіў вялізны гуз на галаве,
Калені пазбіваў, кульгае.
Паклікаў доктара,
А той пытае:
«Жывеце вы ў кватэры ці ў хляве?
Падумаць! — развялі ў пакоі гразь такую.

Ды я вас аштрафую!
Уборку зараз жа загадваю зрабіць!»

---

Бывае, што кругом мярзотнік вінаваты,
А смецця вынасіць не хоча з хаты.

## ТРЫВАЛАЯ ПАПЕРКА

Прыйшла паперка ў нейкі камітэт.
Паперку прынялі як след:
Схапіўшы змест паперкі, шпарка
Яе ў журнал занесла сакратарка
Між іншымі, такімі ж акурат.
Паставіла на ёй, журналу згодна,
Шматзначны нумар уваходны
І ўклала ў папку «На даклад».
Назаўтра старшыня прабег вачмі паперку
І карандашыкам чырвоным чыркануў:
«Намесніку другому. На праверку».
А той на рэзалюцыю зірнуў
І так жа напісаў: «Загадчыку аддзела».
Паперка па ўстанове паляцела.
Праз месяц, калі справа да канца дайшла,
Яна ажно пачырванела,— ад рэзалюцый зацвіла,
Але нагрузку вытрымаць сумела.
А справа хоць сур'ёзная была?
Ды не, драбніца, скажам смела!

---

Паперка вытрымала ўсё як след?
Што ж дзіўнага? — яна ўласцівасць гэту мае.
А вось, бывае,
Займе службовы кабінет
Фігура, так сказаць, даволі немалая
І ўкараніць да справы ўласны падыход:
Пытанне іншы раз хвіліна вырашае,
А тут яго на год
Развесці ўмеюць.
На жаль, не чырванеюць.

## КУПАРОС

Аднойчы ў рэстаране
Кліенту боршч прынеслі на абед.
А есці ён хацеў як след, бо згаладаўся з рання,
Але адной паўлыжкі з'еў, пачырванеў,
Скрывіўся.
«Афіцыянт!» — крычыць. Афіцыянт з'явіўся,
Трымаючы ў руках паднос:
«У чым,— пытае,— справа?»
«Якую вы прынеслі страву?»
«Вы боршч прасілі? — Я вам боршч прынёс».
«Ці ж гэта боршч?» — «А што?» — «Напэўна, купарос!
Бо кухар ваш ад працы верне нос».
«Ну як не сорамна,— сказаў афіцыянт у абурэнні,—
Аб нашым кухару выказвацца вось так!
Наш кухар чалавек вялікага умення,
У справах кухарскіх — мастак!»
«А боршч усё-ткі брак».
«Ды ён душу укладвае у працу!
А вы крычыце, што нядобры смак».
«Не бачу я ў баршчы душы, прызнацца.
А перцу й солі ён сюды наклаў зашмат,—
Зрабіў з баршчу гарбарскі прэпарат».
«Вам трэба за язык уласны ўзяцца,—
Уздыхнуў афіцыянт,— над ім папрацаваць,
Каб змог ён да баршчу прыстасавацца».

---

Няважна, да якіх вяршынь ты ўзрос,
Але ж, калі ў руках трымаеш справу,
Вары такую страву,
Каб выйшаў добры боршч — не купарос.

## САБАЧЫ СПЕЎ

Канчаўся дзень, памалу звечарэла,
Заззялі зоры, памацнеў мароз.
І вось на прызбу Шаўка села
І так уразліва запела,
Узняўшы ў неба нос!
За Шаўкай падцягнуў Барбос
Баском салідным, нізка.
А потым Бобік і Трэзор
Прыбеглі з вуліцы на двор.
І нават невялічкі Лыска
Узняў у неба пыску.
Ну, словам, атрымаўся поўны хор.
І спевакі ўсе — на падбор,
Спяваюць гучна, дружна, смела.
Звініць пад зорамі капэла
На ўсё сяло!
Гаспадару ж — не па сабе было.
Схапіў ён каля печы памяло,
Падкраўся з-за вугла і так удала
Спачатку ўрэзаў запявалу,
А потым і другім, што спевакі
Махнулі хто куды — ва ўсе бакі!

---

Адзін знаёмы мой (чаму? — незразумела)
На гэтае пытанне даў такі адказ:
«Памылку гаспадар зрабіў на гэты раз.
Не варта разганяць было сабачую капэлу.
А хіба лепей грае іншы джаз?»

## ШКЛЯНКА ЧАЮ

Наранку ў хату да Івана
З'явіўся госць неспадзявана.
Ці сват,
Ці брат,
Ці кіраўнік які вядомы.
А можа проста і зямляк.
Бывае ўсяк.
Забегаў гаспадар па дому,
Не ведае, дзе госця пасадзіць,
Чым частаваць, як госцю дагадзіць,
І з жалем кажа: «Сёмая гадзіна!
Зачынены яшчэ ўсе магазіны,—
Бутэлечку не ўдасца прыхапіць,
А дома я віна не маю.
Дык выпіце вы шклянку чаю!»
І жонка праяўляць гасціннасць пачала,—
Той час жа чаю наліла
І цукру лыжак сем сыпнула ў шклянку.
«Прашу вас,— кажа.— Зранку
Заўсёды п'ецца чай. А на абед
Я прыгатую ўсё як след.
І чарку і закусачку прыдбаю».
«А як жа! — гаспадар за жонкай паўтарае
Ды цукру дадае за лыжкай лыжку ўслед.—
Мы дужа рады госцю дарагому!»
«Вядома! —
Кабета ў свой чарод не адстае,
Таксама цукру дадае.—
Ад чыстае душы гасціннасць наша!»
А ў шклянцы ўжо не чай, а з цукру каша,
І ў рот ніхто не зможа ўзяць яе.

З агідай госць на шклянку пазірае,
Бо нудзіць небараку пачынае.
Падзякаваў нарэшце ён гаспадароў,
Сардэчна з імі развітаўся,
Пад паху шапку і — будзь здароў!

———

Чай што! Вось іншы падхалім
Салодкім абыходжаннем сваім
Часамі так сябе пакажа,
Што і аматарам падхалімажа,
Бывае, размаўляць агідна з ім.

## НЕ НА СВАІМ МЕСЦЫ

Таварыш Пустышоў
У оперу прыйшоў,
Касцюмчык апрануўшы кіраўнічы.
(Пасрэдныя кіраўнікі
Даўно прыдумалі касцюм такі.)
Як месяц, свеціцца аблічча,
Паўнюткі, кругленькі, як шар,
Паважненька ўкаціўся ў бенуар,
Усеўся ў крэсла,
Абмахвае часопісам спацелае чало.
Да уверцюры ўжо дайшло...
І тут нялёгкая прынесла
Якогась юнака высокага, і той
Адразу ж сапсаваў настрой.
«А вы не памыліліся? — пытае.—
Білет на гэта месца я ўжо маю».
На словы юнака таварыш Пустышоў
І вухам не павёў.
Юнак жа зноў сваё: «Даруйце, калі ласка,
Але тут нейкая няўвязка.
Дазвольце ваш білет. Я ў момант бы знайшоў
І паказаў вам месца ваша».
Таварыш Пустышоў збялеў, як сыракваша.
«Ідзіце прэч адсюль, нахабнік! — засіпеў.—
Я ў гэта крэсла сеў,
Калі вы ехалі яшчэ к тэатру дзесьці».
І варам юнака абдаў ён з-пад павек.
«Ну што ж, а зараз давядзецца злезці».
«Вы, малады, прабачце, чалавек,—
Заўважыў юнаку якісьці дзядзя збоку,—
І я вам не параю так рабіць.

Старэйшы ён ад вас — нядрэнна б і ўступіць».
«Не разумею вашага папроку.
Не на сваім жа месцы ён сядзіць.
Навошта завялі вы гэткую гаворку?»
Таварыш Пустышоў узняў у ложы крык,
Падтрымку атрымаў і развязаў язык.
Ну й атрымаў юнак праборку!
Нямала выслухаў крутых і вострых слоў.
Але адміністратар надышоў
І пераправіў Пустышова на галёрку.

---

Тэатр закранулі мы дарма —
На іншае тут байка намякае:
Часамі нуль пасаду важную займае,
А вось адміністратара й няма,
Каб выперці такога з установы.
Дый збоку падтрымаць яго там-сям гатовы.

## НЕДАПІСАНАЯ БАЙКА

Натхненнем да нябёс узняты,
Я байку распачаў на свой, вядома, лад:
        «Аслу раз выдалі мандат».
Але падумаў,— гэта ж плагіят!
Было ўжо так у Крапівы Кандрата.
Я ўсё ж крутнуў сваім сцілом:
«Аслу аднойчы выдалі дыплом».
На месца стала ўсё, здаецца, калі ласка!
Ды зноў няўвязка:
Даволі байкапісцы слоў патрацілі на тых аслоў
        Дыпламаваных.
Не варта ж паўтараць па сто разоў адно,
        Што сказана даўно.
        І вось, у пошуках старанных
Пачатак я знайшоў і быў бязмежна рад:
«Аслу быў выдадзен аднойчы атэстат».
        Але падумаў і развёў рукамі,—
        Хіба з атэставанымі asламі
Ніколі з нас ніхто сустрэч не меў?
Дык што ж пісаць? Мы гэткіх сустракалі.
Прытым ніхто з аслоў не разумнеў,
Калі якому з іх часамі й выдавалі
        Дыплом, ці атэстат, ці нават і «...мандат
        Велічынёй з паўметра».
Асёл аслом як жыў, так і жыве.
        Ніводнай думкі ў галаве —
Жуе сабе авёс, псуе сабе паветра.
Так байку я сваю й недапісаў.
        І вось шкадую, што ў маралі
        Я хоць два словы не сказаў
Пра тых вучоных, што аслоў дыпламавалі.

## ПЕСНЯ

Квітнеў вішнёвы сад.
Свяціла сонейка, павейваў ветрык ціха.
Сядзела на гняздзечку салаўіха,
Чакаючы салаўянят.
Каля яе салоўка завіхаўся
І песняй звонкай разліваўся
На ўсе бліжэйшыя лясы, лугі, палі.
«Бывае шчасце на зямлі! —
З уздыхам курыца чубатая сказала.—
Чаго ёй, салаўісе той, тужыць?
Салоўка ёю даражыць,
Дзеля яе і заліваецца. Кахае!
Калі ж і мой настане час?»
А певень недалёка быў якраз,
Заўважыў, што чубатая ўздыхае,
І вырашыў: «Магу і я
Сысці за салаўя.
Ану ж, уперад смела!»
Чубатка й азірнуцца не паспела,
Як певень ля яе загаласіў:
«Ку-ка-рэ-ку-у!» — пад неба паляцела.
І хоць той спеў не салаўіны быў,
Ад радасці чубатка аж прысела.
«Дарэмна,— думае,— на лёс я наракала.
Нарэшце і мяне каханне адшукала».
Але дарэмна захаплялася яна.
Хвіліны не прайшло, як — вось табе і на! —
Ні спеву, ні каханага не стала,
Бо гэты хуліган
Махнуў цераз паркан
На двор суседняй хаткі,

Танцуе певень ля другой чубаткі.
Бяздушны, бесклапотны, бессардэчны кавалер
Любоўна кукарэкаць пачынае.

---

Салодкай песні век не вер,
Пакуль не разбярэшся — хто спявае.

## КРЫКЛІВЫ ІШАК

Вядомы нам Ішак сябе паводзіў так,
Як і ўсе іншыя аслы сябе паводзяць.
Наранку, ледзьве сонейка ўзыходзіць,
Ён, стоячы ля плота на двары,
Свой хвост угору задзярэ
І ну раўці! — аж выгінае спіну,
Усім нутром выдыхвае сваё
Ій-ё-о! Ій-ё-о!
А што такое рэў асліны,
Дазнаешся, хоць раз пачуўшы гэты рэў.
«Каб ты згарэў! —
Казалі ў абурэнні людзі.—
Ён і нябожчыка пабудзіць,
Жывога ж давядзе, падлюга, да труны».
Як толькі з Ішаком яны
Ні мучыліся, што з ім ні рабілі,
А адвучыць крычаць яго не адвучылі.
На золку ён раве,
нібы папаў у вар,
І будзіць кожнага, як на пажар.
Ад Ішака аж плакалі, бывала.
Але аднойчы раніца настала,
І — дзіва дзіўнае! — Ішак маўчыць!
Хто здолеў Ішака ад крыку адвучыць?
Усе наўкол дзівіліся нямала.
А ён стаіць сабе, не разявае рот.
Прыгледзеліся — хвост папаў у плот!
І рад бы ён крычаць,
ды хвост падняць не можа,
Ушчэмлены у загарожу.
Без гэтага ж крычаць не могуць ішакі.

Ішак ужо такі,—
Задзёршы хвост, ён галаву губляе.

---

Калі з нас іншы хвост угору паднімае,
Ён зараз жа крычаць не ў меру пачынае,—
Грыміць.
І сродак тут адзін бывае:
Той час жа хвост яму патрэбна прышчаміць.

## НЯДБАЙНІК

Барбоса гаспадыня шанавала,
Узімку начаваць у хаце пакідала.
І вось павагі да яго не стала.
Начуе небарака на дварэ,
У будцы мерзне ён і стыне,
Ад сцюжы проста гіне.
А то, глядзі, і воўк прыпрэцца, задзярэ.
Дык чым не дагадзіў ён гаспадыні,
Што не пускае ў хату і пагрэцца?
Ледзь толькі ён у хату ўскочыць нацямку —
Той час жа чапялой адхопіць па баку.
І вось сядзіць гаротны ля хлява, трасецца,
А па паркану кот ідзе.
«Сусед, дапамажы бядзе,—
Барбос тут заскуголіў,— дай параду,
Як мне пралезці зноў у хату?»
«Дык ты ж нядаўна жыў, здаецца, там.
За што ж ты вылецеў адтуль?»
«Не ведаю і сам,
Чым гаспадыні я не спадабаўся.
А так ужо стараўся!
І з хаты дзверы навучыўся адчыняць,
Каб гаспадыньку ўначы не турбаваць.
Аж вось, брат, да чаго прыстасаваўся!
Бывала, дзверы лапамі штурхну
І выйду сам на двор.
Спі, гаспадынька!»
«Чакай, чакай, [illegible] ведаю тваю віну.
Дык вось за гэтакія ўчынкі
Цябе і выгналі без жалю за парог.
Ты дзверы адчыняў, але не зачыняў ніколі

І з хаты цеплыню пушчаў у поле,
Таму і месца ў хаце не збярог».

---

Вось так жа і ў нядбайніка заўсёды.
За справу возьмецца — наробіць шкоды,
А выганяць яго — скуголіць «ах!» ды «ох!»

## ПЧАЛА І РУЖА

«Паслухай, любая пчала,—
Сказала ружа неяк ранкам,—
Аблётала ты ўсю палянку,
На розных кветках пабыла,
А на мяне і ўвагі не звярнула.
Няўжо ж ніколі ты не чула,
Што ружа ў свеце прыгажэйшая за ўсіх.
А ты на кветкі іншыя... Што з іх?
Якая асалода?»
«У іх даволі мёду,—
Спакойна прагула
Пчала.—
Не маю часу я з табой ўступаць у спрэчку —
Лячу на грэчку.
Ты ж мёду за жыццё і кроплі не дала.
Што ты прыгожая — цудоўна, міла!
Але каго ты накарміла?»

---

Пішу я пра знаёмага свайго.
Бліскучы і шыкоўны хлопец гэты.
Ды што з таго? —
Лайдак адпеты.

## ДВА БАКІ

Хто плошчаю ішоў, звяртаў на дом увагу:
Чысцюткі, светлы — прыгажосць!
Усё ў ім ёсць,
Усё няблага.
«Шчаслівыя!» — заўсёды жыхарам
Зайздросцілі прахожыя, вядома.
Не ведалі яны, што выгляд дома
Зусім не гэткі са двара:
Абшарпаны, даўно не фарбаваны,
Па сценах скрозь чарнеюць пісягі.
І двор благі —
Засмечаны ён, не прыбраны,
Усюды гразь, памыі, хлам.
Сам чорт зламае ногі там.

---

Так іншы й чалавек, нібы й адукаваны,
Але ў душу к яму ты не залазь,—
Там гразь.

## АЗЕЛЯНЕННЕ

Штодзённа гарады у нас растуць.
І дзіўнага няма,— будуемся шырока.
Упэўнена і цвёрдым крокам
Да перамог будаўнікі ідуць.
І вось адзін якісьці горад бокам
Урэзаўся ў лясны масіў —
Тут будаваць мікраераён запланавалі.
Між сосен пілы замільгалі,
Тапор бярэзнік падкасіў,
Кладуцца на зямлю і ясені, і клёны.
Ды спахапіліся будаўнікі:
«Што ж гэта робім мы, браткі?
Навошта нішчым скарб зялёны?
Патрэбна секчы там, дзе будзем будаваць,
Узводзіць гмахі ў неба,
А вуліцы і плошчы хіба ж трэба
Ад зеляніны агаляць?
У лесе жыць заўсёды — захапленне!»
І прынялі будаўнікі нібы закон:
Пабудаваць мікраераён
І захаваць азеляненне.
Рашэнне гэтае на вецер не пайшло:
Мікраераён цяпер квітнее,
Зелянее.

---

Вось каб заўсёды так было!
Да гэтага часамі не імкнецца
Той-сёй з работнічкаў у нас.
Будуе штось — пазнішча дрэвы ўраз,
А там, глядзіш, азеляняць бярэцца.

## ШЫФЕР І ЛІЧЫЛЬНІКІ

Калгас пабудаваў прасторны дом,—
Дзіцячы сад адкрыць
Праўленне планавала.
А шыферу на дах, прызнацца, не хапала.
Часткова дапамог райвыканком,
Ды мала.
Праўленцы затужылі — што рабіць? —
Мазгамі закруцілі сем галовак.
Але прыдумалі: ў сельпо яго набыць,
Як кажуць, у парадку нарыхтовак.
Чаго ж чакаць?
Лазовае кары нарыхтавалі,
Шчаціну, пер'е, скуры пазбіралі...
І шыфер мелі права атрымаць,
Калі ўсё гэта паздавалі.
І вось намеснік старшыні ў сельпо заходзіць,
З бухгалтарам размову ён заводзіць
Лагодненька і ветлівенька так:
«Таварыш дарагі, прашу я
Нам выпісаць на шыфер накладную».
«Зайсці праз тыдзень вам параю».
«Дык справа ж не чакае!»
Бухгалтар гне сваё і болей ні гу-гу.
А той сапе: «Лічыльнікі заіржавелі.
Зірніце, костачкі заелі.
Ніводнай зрушыць не магу».
«Лічыльнікі? — мы дапаможам ім!
Прамыем дроцікі спіртным,
А на падмазку пусцім сала.
Хвіліначку... Прашу вас у буфет...»
Праз паўгадзіны ўсё як след

На месца стала.
І шыфер атрымаў калгас.

———

Не верыце? — Паверце, калі ласка!
Дапамагае іншы раз
Гарэлка, сала і каўбаска...

## НАКРУЧАНЫ

Гадзіннікі — такія ўжо яны.
Бывае, іншаму няма цаны,
Але і ў ім хаваецца загана —
Накручваць неабходна пастаянна,—
Ён без накруткі не ідзе.
Забыў,
Не накруціў,
І ведай — падвядзе.
Таму заўжды гадзіннікі накручваюць старанна.
А я вось накруціць гадзіннік свой забыў,
За што і пакараны быў.
У доме творчасці заседзеўся да позна,
Напружна працаваў над байкамі, сур'ёзна
І лёг адпачываць
Гадзін прыблізна ў пяць.
Вядома, носам так зайграў,—
Куды там гарманісту!
Не ведаю ўжо, колькі я праспаў,
Прачнуўся — сем гадзін гадзіннік паказаў.
Я зноў пад коўдру — нырк! — мінут на трыста.
Але — ну колькі чалавек у суткі спіць? —
Нарэшце выспаўся і я, падняўся.
Гляджу — гадзіннік мой стаіць
Аж з той пары,
калі я ўранку прачынаўся.
«Эге-е! Патрэбна,— думаю,— спяшыць.
Прыйшла пара, напэўна, снедаць».
Надзеў хутчэй штаны,
ў сталовую прыбег.
А там мяне ўзнялі на смех:
«Якое снеданне! Пара абедаць!»

Вось так са мной і атрымаўся грэх.
Падвёў гадзіннік без заводу.

---

Гадзіннік — не бяда. А ёсць там-сям у нас
Кіраўнікі такога роду,
Якіх накручваць трэба кожны раз.
Накруцяць хвост яму — працуе крыху,
А не накруцяць — спіць паціху.
Дык з ім і возяцца ўвесь час.

## ХЛЕЎ

Амаль на кожным сходзе старшыню
Скублі за недарэчнасці ў калгасе.
То бульба ў полі засталася,
То, бачыце, прадаў свінню
Без адпаведнага рашэння
Калгаснага праўлення.
Круціўся старшыня,
нібыта ў торбе кот,—
Слязу пушчаў,
У хібах прызнаваўся,
Але які́м ён быў, такім і заставаўся.
Збіраўся і чарговы сход.
І зноў ён атрымоўваў пакаранне.
Аднойчы пасля гэткага ўлівання,
Дзе ён і кляўся й ледзь зямлю не еў,
Што працаваць па-новаму сябе заставіць,
Ён клуб рашыў ператварыць у хлеў
І загадаў туды цялят паставіць.
«Што робіш, старшыня! —
намеснік аж прысеў.—
Не выдумляй ты болей,
Годзе!
За гэта зноў на сходзе
Без літасці нас будуць шараваць».
«Не будуць болей нас крытыкаваць,—
Смяецца старшыня,— не бойся.
Цяпер няма дзе сход збіраць,
Ты супакойся.
Ну дзе яго збярэш?
Вядома, не ў хляве ж!»
Ды пакаранне адбылося.

З пасады старшыня быў скінуты далоў,
Бо сход сабраўся зноў.
А месца адпаведнае знайшлося.

---

Дзе можаш, там давай такім па галаве,—
І ў клубе і ў хляве.

## ПРЫДЗІРКА

У клубе Ганна нейкі час
Падлогу мыла.
Праўленне ёй плаціла
Акордна — два рублі за раз.
Ну што ж, нядрэнная зарплата!
На дзве гадзіны, цераз дзень,
Прыйшла, памыла, два рублі ў кішэнь —
І чынчыкуй сабе дахаты.
А ў Ганны дома куры, парасяты,
Гарод на паўгектара, сад...
Дый іншай працы шмат,—
Няма калі ў калгасе працаваць, бяда!
Здавалася б, навошта клуб табе, жанчына,
Ты ж вольнае не маеш і хвіліны?
Ды Ганне двух рублёў шкада.
І вось, каб дома болей заставацца
І каб зарплату не згубіць,
Жанчына пачала ўхітрацца
За пяць хвілін падлогу ў клубе мыць.
Наранку прыбяжыць,
Памоча хуценька анучу,
Цярне, мазне — яно й бліскуча.
А гразь ляжыць.
Глядзеў на гэта старшыня, глядзеў дый кажа: «Ганна,
Працуеш ты, зязюлька, не стаpанна.
Пашлёпаеш там-сям, а два рублі давай.
Ды і ў калгасе — што за праца?
Нам, пэўна, давядзецца развітацца.
На ўвазе гэта май!»
А Ганна ў крык: «Навошта прыдзірацца!
Я працавала, як магла...»

Куды іх звадка завяла —
Не будзем разбірацца.

---

А байку так мы закруглім:
Заўсёды той, хто абы з рук працуе,
Калі заўвагу слушную пачуе,
Крычыць: «Прыдзірка!» І часамі з ім
Патузаецца хтось, але даруе.

## НАМЕСНІК

Калі ў начальніка намеснік ёсць,
Бывае часам так, што той працуе,
А сам начальнік, нібы госць,
Наведае ўстанову, пакіруе
І — будзь здароў! —
Ці на паседжанне куды пачынчыкуе,
Ці едзе на камісію якую,
Ці жонку павязе да дактароў,
А то і ў прэферанс паедзе да сяброў
На бомбе ў цёмную прыстукнуць у экстазе.
Але было не так у гэтым разе.
Начальнік працавіты быў,
Унікнуць сам ва ўсё любіў,
Дагледзець, да ўсяго старанна дакапацца.
Дзе цяжкасці — там падсабіць,
Калі ж пачнуць не так рабіць,
То й з мерай адпаведнай умяшацца,
А дзе патрэбна — і па лапах даць.
Намеснік жа ягоны балбатаць
Умеў замнога.
Такая звычка ў чалавека ўжо была.
За што ні возьмецца — та-ла-ла-ла! —
Намеле сто вазоў пустога.
І разважай ты з ім. Ну што ні даручы,
Ён толькі ўсё даказвае, крычыць,
Карыснага ж зрабіць не здолее нічога.
«Навошта ён табе! — казалі дружбакі.—
Ну што з яго? — Пустое месца!»
«Намеснік і патрэбен мне такі,—
Начальнік у адказ смяецца,—
Бо я за ім, як за каменнаю сцяной».

«Не зразумела...»
«Ды за мяне намеснік мой
Заўсёды гойсае дзень цэлы.
Усё ж на ім, скажу я шчыра вам,—
Паседжанні, інструктажы, нарады...
Чытае лекцыі, адгрохвае даклады...
Усюды ён — і тут і там.
Ці змог бы я падняць гару такую,
Каб ва ўсё гэта ўпрогся сам?
Дык вось ён і кіпіць. А я — працую».

---

Нялёгка іншы раз начальніку паспець
З нарады на нараду,
Прытым не дапускаць у працы спаду.
Дык можа й сапраўды карысна мець
Балбатуна — намесніка па штату?

## БАЛЕЛЬШЧЫК

Пачуўшы з рэпрадуктара, бывала,
Футбольныя сігналы,
Усё валілася ў дырэктара з рук вон.
Хоць неадкладных спраў было нямала,
Хаця прыёму шмат людзей чакала,—
Машыну выклікаў той час жа ён,
Спяшыў на стадыён.



А там, расчулены, заўжды крычаў штосілы:
«Давай, аролікі, давай!
Націсні, левы край!
Куды ты б'еш, мазіла!
Суддзю — на мыла!»
Ды і мацней закручваў іншы раз...
«Балельшчык ён у нас! —
Казалі супрацоўнікі.— Ніколі
Ён раўнадушна не глядзіць на поле,
Нервуецца, хвалюецца ўвесь час.
Дакладна разбіраецца ў футболе!»
«Давайце створым свой футбол, браткі!»
«Расчысцім звалку, што ля загарожы...»
«Дырэктар дапаможа —
Балельшчык жа такі!»
«І сродкі дасць».— «Адмовіць? Быць не можа!»
«Гайда к дырэктару!» — І грамадой
У кабінет дырэктарскі ўваліліся шумліва.
«Што здарылася ў вас? Якое дзіва?» —
Пытае той.
«Футбол стварыць мы вырашылі свой».
«Пустое.
Каманду створыце мацней ад «Спартака»?
На глупства беспадстаўнае такое
Ламанага не дам я пятака».

---

Ну што з такога вось кіраўніка?
Крычыць,— балельшчык ён, дый годзе.
А на сваім заводзе
За спорт і пальцам не кіўне.
О не!

## ЗАВОЧНІЦЫ

У канцылярыі ўстановы
Сядзяць дзве цацачкі. Яны гатовы
Усіх паспляжыць языкамі ўраз.
«Якія густы плоскія ў наш час! —
Сіпіць адна.— Вось гэта самая, карова,
Што ў планавым... Ну як яе?.. у нас...»
«Зязюліна?» — другая стрэльнула вачыма.
«Так, так. На ёй не паліто, а мех!»
«А туфлі... Бачылі вы? Смех!
У іх на людзі выйсці немагчыма.
Насіць абутак гэтакі? Крый бог!»
А тут Зязюліна раптоўна на парог...
Пляткаркі іншую размову завялі:
«Якое паліто! Якія туфлі, божа!
Як гэта хораша і як прыгожа!
Вы добрых майстраў, як відаць, знайшлі».

---

Нямала ёсць людзей, крытыкаваць ахвочых
Бліжэйшага свайго,
Але — за вочы.

## БЕЗ АДРЫВУ АД ВЫТВОРЧАСЦІ

Якісь дзялок займаў аж тры пасады:
У клубе кіраваў музычным ён гуртком,
Загадваў гаспадаркаю дзетсада
І нейкім быў яшчэ малым кіраўніком.
І меў, вядома, тры аклады.
«Калі ты спіш? — спыталіся ў яго.—
Падумаць толькі, тры пасады маеш!
Дзе часу ты на адпачынак урываеш?»
«Ого-о!
Нялёгка,— адказаў дзялок,— але ўрываю.
Даўно ўжо практыка ў мяне такая:
Дзе што раблю,
Дык там і сплю.
І вось, як бачыце, трываю».

## ДУШЭЎНАЯ РАЗМОВА

Сустрэліся два сябрукі.
Яны калісьці недзе разам працавалі,
Але жыцця бушуючыя хвалі
Разнеслі іх у розныя бакі.
Душэўная размова
Ішла ў кватэры аднаго з іх за піўком.



«Жывеш ты,— кажа госць,— як бачу, адмыслова.
А кім працуеш ты?» — «Будаўніком».
«Прафесіі такой у нас пашана!»
«А што ж,— працую я старанна,
Лічуся перадавіком!»
«А вешалку, зірні, якім цвіком
Ты да сцяны цудоўнай прысабачыў...»
«Ну вось, убачыў...»
«Якая столь, якія сцены... А падлога...
Чаму ж ты працу рук сваіх не шанаваў?»
«Я гэты дом не будаваў».
«Дык праца тут будаўніка другога».
«Ты хто? Мой госць. Дык еш і выпівай.
А будзеш лаяцца ў маёй кватэры,
Адразу выстаўлю за дзверы.
І на мяне не наракай».
На тым і скончана была душэўная размова.

---

Патрэбна ўмець не толькі будаваць —
Будынак зберагаць
Патрэбна ўмець абавязкова.

## ПРАМОЎЦА

Прамоўца выступаў на сходзе
І пагарэў, як кажуць, пры народзе.
Бадзёра ён пачаў, старонку прачытаў
(Была ў яго падрыхтаваная прамова)
І — стоп! — спыніўся на палове слова,
        Схапіўся за каўнер і ўпаў.
Узняўся крык, перапалох у зале:
«Вады! — крычаць.— Вады!» За доктарам паслалі...
Ледзь штучным дыханнем адхаялі яго.
Нарэшце ачуняў бядак, глынуў «крэмсоды»
І выдыхнуў два словы: «Зняць з работы!»
        «Каго,— пытаюць,— зняць, каго?»
«Ды машыністку. Вось зрабіла шкоду!
Ну так жа нечакана падвяла».
        І ясна стала ўсім: прамова
        За паўгадзіны, тэрмінова,
        Сакратаром напісана была,
        А машыністка так няўдала
        Прамову перадрукавала —
Без косак і без кропак. Як стрываць?
        Таму і здарылася ліха.
Ну проста задыхнуўся чалавек: не смех сказаць—
Старонку цэлую без перадыху
Прамоўцы давялося прачытаць!

———

Такім прамоўцам мушу даць параду:
        Калі не самі пішаце даклады,
Дык хоць самім памылкі трэба выпраўляць.

## САПУН

«Паведамляю, што ў саўгасе
У нас агіднасць завялася:
Дырэктар п'янствуе з кладаўшчыком.
У полі ж бульба зімаваць пад снегам засталася» —
Пісьмо такое прыбыло ў райком.
Сігнал — не жартачкі! Камісія, вядома,
Прыехала ў саўгас, праверку пачала.
А дні праз два з абкома



Камісія таксама прыбыла.
Бо й там сігнал сур'ёзны атрымалі:
«У нас рамонт машын не пачыналі
І не збіраюцца, даводжу, пачынаць.
Пад небам трактары стаяць.
Правалім пасяўную без сумнення!
Не сарціруецца насенне!»
Карэспандэнты ледзь не ўсіх газет
Прыехалі, бо і да іх нямала
Сігналаў паступала.
І вось шуруюць — ездзяць на палі,
Кароўнікі ды свірны правяраюць,
Гросбух у бухгалтэрыі гартаюць...
Дырэктару і чхнуць няма калі.
А што знайшлі?
Мажліва,
Дырэктар з кім і выпіў кубак піва.
У полі выявілі бульбіны са тры.
І трактар спісаны, стары,
Стаяў ля гаража, гатовы у адпраўку
На пераплаўку.
Драбніца ўсё, няма чаго й казаць.
Ды вось бяда — сапун якісьці
Завёўся там, гатовы ўсіх загрызці,
І распачаў ва ўсе канцы пісаць.
Ён сам у гаспадарцы не працуе,
А толькі піша,— ўсіх нервуе,
Вынюхвае, выглядвае, сапе...

---

Няўжо ж такому нельга ўрэзаць па ілбе.

## НА ПАРУКІ

Раман папаўся.
З зарплаты недзе налізаўся
І разышоўся ў парку гарадскім.
Скандаліць, мацюкаецца заўзята.
Шарахаюцца ўбок жанчыны і дзяўчаты.
Але ў канцы канцоў не цацкаліся з ім.
Знайшліся малайцы, звязалі хулігана,
Даставілі ў міліцыю, і тут
Раман папаў пад суд.
І справа скончылася б дрэнна для Рамана,
Каб не сябрук ягоны Халімон.
Два дні ў заўкоме тоўкся ён,
Даводзіў, што Раман папаўся выпадкова,
У грудзі стукаў, даваў слова,
Ручаўся, кляўся на чым свет,
Што той ніколі не паўторыць гэткай штукі.
Прасіў узяць Рамана на парукі.
Ну што ж, заводскі камітэт
Рамана падтрымаць згадзіўся.
Раман аслабаніўся.
У той жа вечар дружбакі
За горадам, каля ракі,
Замочвалі Раманава збавенне.
Раман, удзячны, ўзяў гарэлкі літры з два.
«Загінула б,— крычыць,— дурная галава,
Каб не тваё імкненне
У цяжкую хвіліну дружбаку
Падаць руку!
Дык пацалуемся, мой родны!»
«Усыпаў бы табе, мой дружа, суд народны,
Каб не энергія мая».

«І сам бы выкруціўся я».
«Ну, дзе там!»
«А ты не выхваляйся гэтым.
Падумаеш, ён дапамог!»
«Я вызваліць цябе з бяды вялікай змог.
Кажу у вочы».
«А ў морду хочаш?»
Да слова слова — і пайшло.
Што там было!..
Расквасілі насы, кашулі пазрывалі,
Адзін на аднаго наскоквае, як звер.
З'явіўся міліцыянер, —
Яны і міліцыянера наштурхалі.
У выцвярэзніку яны заначавалі.
Назаўтра ж іх ужо судзілі двох.

## СЯБРУКІ

У клубе запрасіў Ілья на танец Нату,
А потым танцаваў цалюткі вечар з ёй.
Счарнела ўсё ў сярэдзіне ў Ігната,—
Дзяўчыну ён лічыў сваёй.
У хлопца закіпела ў жылах кроў,
Паклікаў да сябе сяброў,
Тараса, Ясюка і Мікалая,
І кажа ім: «Я гэтага Ілью
Па вушы заганю ў зямлю,—
Няхай маёй дзяўчыны не чапае!»
«Давай, давай!» — згадзіўся з ім Тарас.—
У блін ён ператворыцца у нас».
«І я,— дадаў Мікола,— падтрымаю
У гэтай справе вас.
Распішам мы яму аблічча,
Як кажуць маляры часамі, пад арэх.
Вось будзе смех!»
«А я дружыннікаў паклічу,—
Сказаў Ясюк,— і біцца вам
Не дам».
«І мы былі з табою сябрукамі! —
Абурыўся Ігнат на Яся.— Здраднік ты!
Тарас і Мікалай — сапраўдныя браты!»
«Каханне не даводзяць кулакамі».
«Сябрук павінен сябруку дапамагчы!»
«Ігнаце, памаўчы.
Усякая бывае дапамога.
Калі сябрук у горы, у бядзе,—
Яму дапамагай і не шкадуй сябе самога.
А ў вас аб чым размова тут ідзе?
Аб хуліганстве.

Не, браце, ў гэтакім паганстве
Я ўдзелу не прыму, вядома. Мардабой
I сам не падтрымаю я ніколі,
Ды і табе скандаліць не дазволю».

---

Сябрук сапраўдны той,
Хто за табой
У бруд скакаць не будзе.
Не дасць ён і табе цялёпкацца у брудзе,
Бо ён шануе гонар свой
I твой.

## ПЕРАСАЛІЎ

Яўмен да старшыні рашыў убіцца ў ласку.
А той да пахвалы не раўнадушны быў,
Дый чарачку любіў,
І паважаў сялянскую каўбаску.
Сталы накрыў
І запрасіў гасцей дадому.
І старшыню, вядома.
Кульнулі па адной
І па другой —
За старшыню калгаса.
Закусваюць.
Хто рэдзьку есць,
Хто мяса,
А хто на квашаніну налягае.
Яўмен жа па чарговай налівае
Дый зноў за старшынёўскае здароўе
Па чарцы запрашае ўсіх падняць.
«Пілі ж мы за яго,— заўважыла Праскоўя.—
Пара і меру знаць».
Ды дзе там! Не спыніць Яўмена.
Яму ўжо мора па калена.
Крычыць: «За старшыню бясконца наліваць
І — выпіваць!»
«Чаго ты расхадзіўся? —
Падняўся дзед Лука.— Ўсё п'еш за аднаго.
Не варты старшыня таго.
Здаецца, ты й не надта ўжо напіўся,
Але паводзіш сам сябе, нібы свіння».
«Сядай, Яўмен, які ў нас старшыня?»
«Такую птушкаферму разваліў!»
«А боб чаму не ўбралі ўвесь, скажы ты?»

Нібы памыямі абліты,
Прыгнуўся старшыня. Яўмен перасаліў.

---

Калі цябе пачнуць расхвальваць падхалімы,
Народ без кпінаў не праходзіць міма.

## ЗНАЁМСТВА

Прыбыў дзялок на працу у раён.
Не будзем разважаць мы пра ўстанову,
Якую ашчаслівіў ён,
Адно адзначым: тэрмінова
Знаёміцца дзялок з усімі распачаў.
«Знаёмства,— ён салідна адзначаў,—
Усім асновам ёсць аснова.
Без гэтага й цвіка ніколі не дастаць,
А па знаёмству, паспяхова,
Магчыма і палац пабудаваць...»
І вось з такім глыбокім меркаваннем
Ля тых пачаў дзялок хвастом матляць,
Хто меў хоць нейкае ў раёне званне,
Каму даверана было хоць чымсьці кіраваць.
Але дзялка адразу ж раскусілі.
Калі з ім пазнаёміліся многія як след,
І там і тут загаманілі:
«Хапуга! Прайдзісвет!
Вы бачылі? Прыдумаў моду,
Для брудных спраў знаёмства скарыстаць!»
Якую атрымаў дзялок выгоду,
Не цяжка адгадаць.

---

Нямала па знаёмству робяць шкоды.
Знаёмства ж гэткае гатовы я вітаць.
Любы дзялок завянуць мусіць,
Калі яго раскусяць.

## ТАВАРЫШ ЛІСАВА

Нам тыцкаюць нярэдка ў нос:
«Вы, байкары, жывёл замардавалі.
Бярэце ўсё то барсукоў, то коз,
А вось людзей амаль не закраналі».
Таму, раней чым байку напісаць,
Павінен я адразу адказаць,
Што тэма гэтая падгледжана не ў лесе,
А ў райсабесе.
І я прашу мяне не дакараць.
...Таварыш Лісава сабесам кіравала.
І спраў было ў яе,
Вядома што, нямала.
Бывала,
І чхнуць ёй часу нестае.
Папер заўсёды на стале ў яе даволі.
Там падлічы, тут подпіс падмахні.
І круціцца службістка дзень пры дні,
Нібы вавёрка ў коле.
Было б яшчэ нішто, што многа спраў,
Каб не было заяў,
А іх, нібы з дзіравай бочкі, нацякае.
Аленеў сем лістоў ужо даслаў,—
Калі яму прызначаць пенсію, пытае.
Заявамі сабес Баброў бамбіць.
Тхарова не дае спакойна жыць.
Казлова дапамогі патрабуе.
Куніцына пуцёўку хоць любую
На поўдзень намагаецца здабыць.
А ўчора заявіўся сам Мядзведзеў,
Раве — сабес заявы не разгледзеў!
Ну як тут быць?

І Лісава свае прымае меры.
Усім не дагадзіш усё адно,
Таму кладзе заяву пад сукно
І ад наведвальнікаў зачыняе дзверы.

---

Бюракратызм знікае ўжо ў наш час,
Ды бюракраты ёсць у нас,
Хоць і не так ужо іх і багата.
Між іншым, калі ўважліва глядзець,
Між бюракратамі даводзіцца сустрэць
Часамі і жанчыну-бюракрата.

## ПАПОВА ЗЛОСЦЬ

Жыў-быў на свеце, дый памёр
        Стары калгаснік Міканор.
        А дзетак са старой нямала
За доўгае жыццё паспеў нагадаваць.
        І вось прыехалі яго хаваць
Пісьменнік, два ўрачы, два генералы,
        Настаўніца, студэнтка, аграном,—



Зяці, нявесткі, ўнукі...
Ну, словам, повен дом.
Жалобныя ліюцца гукі,
Спаважна кракаюць басы,
Старанна падаюць кларнеты галасы,—
Аркестр калгасны — ідэальны!
Картэж вялікі пахавальны
Заняў дзве вуліцы сяла.
Была
Павага да старога,
Вось і праводзіў Міканора ўвесь калгас.
На цвінтары ж царквы у гэты час
Салёным словам бога
Штосілы крыў святы айцец Амос:
«Ты што ж ад храма вернеш нос?
Куды падзелася твая, нягоднік, дапамога?»
Вось побач грошыкі былі...
Хаўтуры гэткія і міма праплылі!

---

Папам заўжды балюча, нецярпіма,
Калі плыве прыбытак міма.

## АБСТРАКТНЫ СТОЛ

Мастак партрэт намаляваў
Уласнай жонкі.
Калі ён твор сябрам дэманстраваў,
Хвалілі ўсе: «Малюнак тонкі,
Глыбокі, непасрэдны, звонкі!
Відно адразу — ў мастака
Упэўненыя вока і рука».
І толькі жонка ціхенька стаяла,
Глядзела і плячмі ўсё паціскала.
«Няўжо,— пытае,— гэта я?»
«А як жа, любая мая! —
Казаў мастак.— І пекны стан дзявочы,
І шыя лебядзіная твая, і рот...»
«А хіба ж у мяне на пузе вочы?»
«Ну, ведаеш, абстрактны падыход
Быў у мяне да гэтай працы.
Каб гэта зразумець, патрэбна пастарацца
У корань сутнасці зірнуць.
Мазгамі трэба варухнуць!
Зірнуўшы на стварэнне вось такое,
Сабе ўяві сапраўднае, жывое,—
Тады і зразумееш свой партрэт.
Ну, дай нам закусіць». Наладжан быў банкет.
Кілішкі налілі, кульнулі і... знямелі.
Сядзяць, глядзяць адзін на аднаго.
Вось нудзіць пачало і гэтага й таго...
Нарэшце закрычалі, зашумелі:
«Чым нас частуюць!», «Жах!», «Падман!»,
«Піць прымушаюць нас рыцыну!»,
«А закусь — міска гуталіну!»,
«Аконны кіт!», «Саман!»,

«Агідна!», «Брыдка!», «Непрыстойна!» —
Пачулася наўкол.
А гаспадыня й кажа ім: «Спакойна!
Я вам наладзіла абстрактны стол.
Калі ў той пэцкатні, што ў творы мужа,
Пазнаць сябе я мушу,
Ягоную мазню за свой партрэт лічыць,
Дык вы таксама можаце ўявіць,
Што на стале стаяць ікра, паштэты,
Салаты розныя ды вінегрэты,
А ў пляшках не рыцына, а каньяк».

---

Абстрактных пэцкуноў заўжды карміць бы так.
А то ж лухту ўсялякую малююць,
А харч рэальны патрабуюць.

## ЯШКА

Заве сябе хлапчук не Якаў, а Якоб.
Каротка падстрыгае лоб,
З патыліцы ж каўнер валоссі закрываюць.
«Канадкай» гэткую прычоску называюць.
Два вусікі перасякаюць твар,
Кашуля колеру «пажар»,
На гальштуку малюнак балярыны,
Пінжак шырачынёю тры аршыны,
Штаны у дудачку, пад туфлямі каўчук...



Яшчэ дадаць патрэбна, што хлапчук
Асвоіў дужа тонкі танец,
Які завецца «рок-н-рол».
І ногі ўжо кладзе на стол,—
Ну без пяці мінут амерыканец.
Навошта гэткае? Чаму
Такі дзівосны густ у Яшкі?
Адказ не хітры тут — яму
Патрэбна скрыць нахабныя замашкі,
Таму і ладзіцца пад іншаземца ён.
Звярніце ўвагу на яго лексікон:
«Хело!», «хе-хе!», «жытуха!»,
«Шалава!», «рубанём!», «капец»...
Дзяўчына для яго — «бабец»,
А лепшы друг — «братуха».
Ён хоча нас, галоўкай недалёкі,
Замежным выглядам здзівіць,
Шырокім пінжаком прыкрыць
Нахабства, хуліганскія заскокі.
А да парадку іх прызваць не цяжка,
Патрэбна толькі ўзяцца ўсім наўкол.
Таварыш камсамол!
Бярыся, браце мой, за Яшку!

## ЛОРЫ І ЖОРЫ

Ларыса ашчаслівіла Сцяпана,—
Для ўсіх неспадзявана
Раптоўна выйшла замуж за яго.
Сказаць патрэбна, шчасцейка свайго
Яна не адзін год чакала
І жаніхоў перабірала —
О-го!
Ды выйшла ўсё ж не за таго, каго шукала.
Сцяпан цудоўны ўсім: не курыць і не п'е,
Разумны, працавіты і ахайны,
Уважлівы, пяшчотны да яе.
Але ў ім бляску нестае —
Ён нейкі непрыкметны муж, звычайны.
А ёй патрэбен муж такі,
Каб кроў у жылах у яго кіпела,
Каб сэрца млела...
А ёсць жа слаўныя на свеце юнакі!
Напрыклад, Жора.
Ледзь дакрануўся да рукі —
І Лора
Успыхнула, нібы вулкан.
Няблага!
А там звярнуў на Лору ўвагу
Жан...
На танцах жа аднойчы Нона
З ёй пазнаёміла Напалеона.
Ізноў раман.
Прыхільнікаў у Лорачкі калона.
Яна цяпер ну проста нарасхват.
І Цімы ля яе падбрыкваюць, і Лёвы,
Натанаў, Сюзікаў, Якобаў шмат.

І кожны скокнуць за яе ў агонь гатовы.
Настаў Ларысін час!
Каб не Сцяпан, то мужа Лора ўраз
Між імі выбрала б любога,
Ды якога!
Такі ж цудоўны момант надышоў!
І у жыцці наладжана была папраўка —
Сцяпану дадзена адстаўка.
Не псуй, брат, гонту, з даху злазь далоў.
Ларыса рукі развязала,
Гатова мужа новага прывесці ў дом,
А жаніхоў... не стала.
Яна да Жоры — той вільнуў хвастом.
Яна да Жана —
Той у кусты нырнуў старанна.
Адшыліся і першы і другі.
Каля яе Натаны, Лёвы, Цімы
І іншыя імчацца жаніхі,
Як кажуць, гужам, гужам, ды ўсё міма.
У чым жа тут сакрэт? Чаму раптоўна так
Ларысу напаткала гора?
А вось у чым: не стала мужа ў Лоры,
Таму і жаніхоў у Лоры стала брак.
Вось як.

---

Яшчэ вядуцца сукіны сыны.
За спіной мужавай яны
Ахвочыя ля жонкі завіхацца.
Дый жонак адшукаеце такіх.
Звычайны, добры муж не здавальняе іх,
А поганню яны гатовы захапляцца.

## КАЗКА ПРА ЗЯМЛЮ

(З народнага)

Жыў-быў калісь на свеце селянін.
Зямлі ён меў дванаццаць дзесяцін.
Чаму б не жыць пры гэтакім надзеле?
А ў селяніна з году ў год
За недародам недарод.
Суседзі меншыя надзелы мелі,
А хлеб заўсёды елі
Ды скварку час ад часу клалі ў рот,—
Зямелька ім усё давала.
А з гэтым, бачыце, яна не сябравала,
Бо селянін зямлю не паважаў.
Суседзі ехалі араць, а ён ляжаў,
Суседзі сеялі, а ён зяваў памалу...
Зямля яму аднойчы і сказала:
«Не будзеш даглядаць мяне,— тады не наракай.
Сыду, схаваюся — і не шукай».
Ды селянін у гэта верыў мала.
«Зямля ўцячэ? — ён разважаў.— Мана!
Куды падзенецца яна?»
Ізноў зямля ў яго ўсё лета пуставала.
Ізноў ён папярэджан быў:
«Патрэбна даглядаць мяне! Ты чуеш?
Схаваюся, сыду — дык пагаруеш!»
Ды селянін ізноў нічога не зрабіў.
І вось яму зямля нарэшце заявіла:
«Не паважаў, не даглядаў мяне, лайдак,—
Цяпер трубі ў кулак.
Ну што ж, бывай! Я ўсё зрабіла,
Каб ты паразумнеў, але дарма...»
Прыбег на поле ён — зямлі няма.

«Куды падзелася зямелька дарагая?! —
Заплакаў чалавек.— Учора ж тут была!»
А вецер завывае:
«Твая зямелька ў лес пайшла!
З благім гаспадаром яна дружыць не хоча.
Бяжы, шукай, магчыма, знойдзеш дзе...»
Гаруе селянін. А лес гудзе,
Пугач хугукае, глушэц балбоча,
Малыя птушкі з дрэў смяюцца ў вочы:
«Ціў-ціў! Ціў-ціў!
Зямлю ўпусціў! Зямлю ўпусціў!
Пабегай пашукай цяпер у лесе, калі ласка!»

---

Мне скажуць: «Гэта ж казка!»
Вядома, казка. Я не нахлусіў.
Але ж і на калгасным полі
Вы зможаце знайсці участачак такі.
У час не прыкладуць рукі,—
Яго і запалоняць хмызнякі,
Бо ім тут воля.
Вось казка праўду і знайшла:
Зямля ж з калгаса ў лес пайшла!

# МЕХАНІКАВА ГОРКА

Да Васіля ў калгас
Прыехаў з горада Мікола —
Былі якраз канікулы у школах.
Назаўтра, ледзьве сонейка ўзышло,—
Сяброў у хаце не было,
Яны на лыжах падаліся ў поле.
Ну, вось дзе шырыня, раздолле!
Пад лыжамі сняжок рыпіць,
Бялюткі, свежы і глыбокі,
Мароз пашчыпвае за шчокі,
Усё наўкол на сонцы зіхаціць,
Нібы раскіданы па полі зоркі.
«Якое хараство! Якая прыгажосць! —
Ускрыкнуў госць.—
Але не бачу ніводнай горкі,
І не пракоцішся. Шкада!»
«Так, з горкамі у нас бяда.
Але,— Васіль прыжмурыў вока,—
Дарэчы, ёсць адна тут недалёка.
Пайшлі! Пракоцімся як мае быць!»
Вось хлопцы ля гары. «А што гэта тырчыць?—
Спытаў Мікола.— Нібыта касілка...»
«Рычаг. Пад снегам лёнацерабілка,—
Механік не прыбраў,
У полі зімаваць пакінуў.
Вось летась тут камбайн зазімаваў,
Тады была гара з хаціну!»

---

А што параіце вы мне:
Падзякаваць механіку ці не?

## ВЫБУХ

У сэрца Вілі нервы нібы трос,
Яго ніхто нічым ніколі не спужае.
Ён вытрымку стальную мае,
Бо ўпэўнены ў сабе, ў дзяржаўны лад і ў лёс.
Не ўзрушыла яго падзея і такая:
Згарэў у Вілі не малы аўтазавод.
Брывом не варухнуў на гэта Вілі,
Завод адбудаваў, і зноў аўтамабілі
Пачаў ён выпускаць. А цераз год
Злавесна грымнуў выбух на другім заводзе,
Кацельню зруйнаваў і цэхаў шмат пашкодзіў.
Не пахіснуўся Вілі і цяпер.
Аднойчы у яго сядзелі інжынеры —
Праборку ім рабіў спакойны сэр.
І раптам выслізнуў лакей старэнькі з-за парцьеры,
Да Вілі нахіліўся, штосьці сказаў...
І Вілі закрычаў, запырскаў слінай,
Затрослася, пасінеў, як пуп гусіны,
І з крэсла ўпаў.
Усе спужаліся, зрабілася нялоўка,—
Жалезны чалавек і — дзіва! — раптам здаў!
Чаго? Лакей сказаў яму на вуха: «Забастоўка!» —
І Вілі дуба даў.

---

Капіталісту выбух — нуль цана.
Вось забастоўка,— гэта ўжо нялюба,—
Мацней ад выбуху яна.
Ад слова гэтага ён можа даць і дуба.

## МАЦІ І СЫН

У сына першы рэзаўся зубок —
Матуля шмат начэй не спала.
А там на коклюш захварэў сынок.
Ізноў матуля з ім насілася нямала.
        Але пара настала,—
Хваробы ўсе адсыпаліся ўбок.
Спакою ж за сынка яна не атрымала:
На бруку недзе ўпаў,—
                на лобіку гузак,
Ля рэчкі ушчыкнуў яго гусак...
Дый сам сабой хлапчук даволі вёрткі,—
То світку зашывай яму, то порткі.
Штодня даецца маці ў знак,
        І чым расце, тым болей.
Нямала непрыемнасцей і ў школе:
То сябрука штурхне,
То спозніцца у клас,
То двойка запаўзе у дзённік іншы раз,—
Не абыходзіцца без фортэляў ніколі.
Нарэшце прамінуў маленства час,
Сынок падрос, працуе на заводзе,
Сустрэў каханую,
                жывуць у згодзе,
        Закончваюць вячэрні інстытут.
        Чаму б не радавацца тут?
Ды сэрца маці не пакінула трывога.
        І недарма хвалюецца яна.
        «А раптам,— думае,— вайна
Узнікне й праглыне сыночка дарагога!»
        І моташна старой.
Адкуль жа будзе тут спакой,

Калі яшчэ на свеце многа
Прыхільнікаў знішчальнае вайны.

---

На ўсёй зямлі усе сыны
Сцяной за мір павінны стаці,
Каб шчасце ведалі ўсе маці!

## ЦЫТАДЭЛЬ

Быў час,
Калісьці у суседзяў, ды і ў нас,
Усюды будавалі цытадэлі.
Старанна сценамі й равамі гарады
Абносілі тады.
І рацыю, вядома, мелі
Умацаванні гэткія рабіць.
Калі неспадзявана
Пад горад падыходзіў госць нязваны,
Не мог адразу ён той горад захапіць.
Павінен аб сцяну быў лобам біцца,
У рове ў ледзяной вадзе тапіцца,
Часамі й сілы ўсе свае згубіць.
Бязмежна цытадэль тады дапамагала!
Але пара настала,
Са сцэны цытадэль сышла,
Бо ролю ўжо сваю сыграла.
Такая сіла ў ворага была,
Што без вялікіх цяжкасцей знішчала
Усё падрад.
Ну што яна,
Сцяна,
Для велізарнейшых гармат?
Альбо той роў для самалёта? —
Ён бомбу ў дзесяць тон у горад без турботы
На крылах занясе і там
У момант узарве усё к чарцям.
Але й тады тым-сім было паўгора,
Чыю радзіму аддзяляла мора
Ад іншых між сабой ваюючых дзяржаў.
Знішчэннем там вайны агонь не пагражаў.

Напрыклад, ЗША. Вайны мінулай сіла
І плот у іх нідзе не паваліла.
Бязмежны акіян дзяржаву ўратаваў —
Вайна да ЗША і не дастала.
...А зараз што было б, каб грымнула навала,
Каб зноў агонь вайны забушаваў?
Ды атамны ж зарад ракета
Цяпер у момант занясе ў любую кропку света!
Што можа ад няшчасця ўратаваць?
Якую цытадэль патрэбна будаваць,
Якой сцяной адгарадзіцца,
Якімі перакрыццямі прыкрыцца,
Каб, трапіўшы у цэль,
Ракета не спаліла ўсё ў адно імгненне?

Усеагульнага дабіцца раззбраення.
Вось гэта будзе цытадэль дык цытадэль!

## НОЧ І ДЗЕНЬ

У цемнаце начной і непрагляднай
Істоце, да драпежнай справы здатнай,
Заўсёды не жыццё было, а рай.
Душы сабе, ірві і пажырай
Любога, да каго працягнеш лапу.
Абы разявіў толькі зяпу —
Ужо ахвяра б'ецца у зубах.
Для мірнае істоты цемра — жах,
Бо смерць яна нясе для ўсіх
Жывых,
Навалу.
І кожная душа пацёмкі праклінала,—
Няма ж ахвотнікаў развітвацца з жыццём.
А тыгры, львы, ваўкі, гіены і шакалы
Віталі ноч сваім выццём,
Бо цемрай ноч рабункі прыкрывала.
Малілі ўсіх святых драпежныя звяры,
Каб не было канца начной пары,
Каб светлы дзень не наступіў ніколі.
Ды так зрабіць было не ў іхняй волі:
Адно — хацець,
Другое — мець.
Жыццё заўжды свае законы мела.
Прыйшла пара, заднела,
На неба сонейка ўзышло,
І разлілося жыватворнае святло
Па нівах, па лугах і па лясах бязмежных,
Усё на свеце забуяла, зацвіло.
А справы дзеячоў драпежных
Як на далоні сталі ўсім відны.
Загаўкалі,

Заяўкалі
Яны,
Завылі на чым свет,— благія справы! —
Падціснулі хвасты
І драпнулі ў кусты.
Але не абышлося без аблавы —
Знішчаць іх пачалі і тут і там.
І хоць яшчэ, вядома нам,
Не зніклі ўсе яны — жыве і той і гэты,—
Ды іхняя ўжо песня спета,
Бо сонца асвяціла кожны лес.
Драпежнікам не ўдасца ўратавацца,—
Няма ім дзе схавацца.

---

Як сонца, свеціць нам КПСС,
І мы ў святле яе да камунізма крочым.
Ад злосці аж равуць драпежныя паны —
Ім наша сонца слепіць вочы.
Ды як бы ні шалелі там яны,
Мы са сваіх шляхоў не збочым.
Не ўдасца ім навесці цень
На наш савецкі светлы дзень.
Саміх жа іх даўно труна чакае.
Іх наша сонца выкрывае.

## БЕЗ РАДЗІМЫ

І трэба ж так было адбыцца,
Што ў час вялікай навальніцы
Занесла дзятла мірнага за свет.
А там ужо й каршун-сусед
Успеў на дрэве пасяліцца.
Яго таксама ў час бяды,
Як ён даводзіў сам, пад крылы
Віхура злая падхапіла
І вось закінула сюды.
Сумуе дзяцел наш,— часіна злая.
Адзін за морам,— хоць ты плач.
Ні хаты, ні сям'і сваёй не мае.
Мясцовы гаспадар крумкач
Хваёвых шышак церабіць не дазваляе.
Для дзятла тут адзіныя харчы—
Ля кухні крумкачыныя аб'едкі.
Але й за пачастунак гэткі
Старайся, па-замежнаму свішчы.
«Не,— кажа ён суседу,— не стрываю.
Дадому трэба мне ляцець,
Бо там сям'я мяне чакае.
А тут не хітра й адубець
Ад гэткага жыцця, ад гэткай ежы».
«А ты адкуль?» — спытаў каршун. «Я з Белавежы».
«Так, так. Параіць не магу
Нічогачкі табе я ў гэтым разе.
Адно ты толькі май на ўвазе:
Як з'явішся дамоў — заганяць у тайгу.
Не ўбачыш ні сям'і, ні роднай хаты».
«А ў чым я вінаваты?»
«Віну, брат, знойдуць, я табе скажу,

Прыціснуць, што не зможаш адмаліцца.
А дзе, спытаюць, быў ты ў навальніцу?
Махнуў, нягоднік, за мяжу?
Дык вось і атрымай, бадзяга!»
Счарнела ўся душа у дзятла ад тых слоў,
Але, падумаўшы, ён к вываду прыйшоў:
«Жыць без радзімы блага.
А довад каршуноў
Не мае слушнае падставы.
У каршуна зусім другія справы,—
Яму вяртацца нельга ў родны бок,
Бо ён там надрапежнічаў і ўцёк,
Таму і круціцца,— адказваць трэба.
А дзятлу што?» — І ўзняўся ў неба,
У родны край накіраваў палёт.
Ён дома сустракаў з сям'ёю новы год.
Ніхто там да яго і не чапляўся.
Каршун жа за мяжой застаўся
І зараз крумкачу глядзіць у рот.

---

Нямала за мяжу ў часы вайны
Загнаў фашызм людзей бесчалавечна.
Вяртайцеся дамоў! — мы кажам ім сардэчна.
Ды ёсць між імі каршуны,
Якія назладзейнічалі дома,
Адказнасці баяцца і, вядома,
Пра нас хлусню плявузгаюць яны,
У душы чыстыя атруты сеюць семя,
Паганцы без радзімы і без племя.

## ЧЫНОЎНІЦА

Чаго на свеце не бывае!
Расказваюць, чыноўніца старая,
Калі дачулася да навіны,
Што шар зямны
Круціцца ў небе звычку мае,
Аж кудлы пачала ірваць на галаве:
«Мне, тайнага саветніка ўдаве,—
Заступнікі! Святая сіла! —
На гэтакай круцёлцы трэба жыць!
Спыніць!
Спыніць!
Спыніць!»
Ды шар зямны, вядома, не спыніла.

———

З чыноўніцай магло такое быць.
Ну, што вы хочаце з яе, тупіцы!
А вось той-сёй імкнецца з-за граніцы
Да камунізма рух затармазіць!
Што ж, гэткага аматара любога
Адной ацэнкай можна ацаніць —
Дурнейшым ад чыноўніцы намнога.

## ВАРОНА І МАНБЛАН

Бязмозгую варону
Панесла на Манблан.
Які ў яе быў план?
Чаго яе панесла ў гэту зону? —
Нялёгка адказаць, але да вышыні
Яна ўсё ж даляцела
І там на камень села.
Ды ўсякія ў гарах бываюць камяні.
Той самы ледзь ліпеў,
Гатовы ўніз каціцца.
Мярзотніца на ім не ўспела прымасціцца,
Як ён сарваўся, загрымеў,
Падскочыў, цокнуўся з суседам,
Імчыцца ўніз, а следам
Даволі камянёў ляціць другіх.
Вось дзесяць, вось і сто, вось тысяча ўжо іх,
А вось ужо мільён ляціць услед мільёну.
Гудзе лавіна горная! З разгону
Арлінае гняздо змахнула са скалы,
Лясок зялёны паваліла,
Дзве вёскі пад гарою разбурыла,
Раку запрудзілі каменныя валы,
А тая ў свой чарод, вядома, разлілася
І горад заліла, пазносіла масты...
У выніку варонняй дурнаты
Такая катастрофа адбылася!

———

Расказам пра бязмозгую варону
Хацеў бы я напомніць Пентагону,

Што з бомбай вадароднай жартаваць
Не трэба.
А вашы самалёты ў неба
Такія бомбы паднімаць
За правіла ўзялі. Пакіньце! Будзе горка!
Упусціць лётчык бомбачку адну
І выкліча вайну.
А гэта небяспечна і Нью-Йорку...

## САМАЗАБОЙСТВА

Ля вёскі воўк да ранку праблукаў,—
Шукаў, каб у аўчарню як прабіцца.
Раней было прасцей:
Калі не разгубіцца,
То можна ўраз было дзе-небудзь, нацямку,
Страху прадзерці ў хлеўчуку —
І добра пажывіцца.
А зараз час настаў далёка не такі,—
Пазніклі хлеўчукі.
Аўчарні ж мураваныя — палацы!
Спрабуй пралезці ў іх.
Дый стрэльбы ў вартавых...
Ніяк ваўку ў аўчарню не прабрацца
І смачнае бараніны не мецць.
Калі ўжо добра пачало віднецць,
Рашыў нахрапам ён туды прарвацца.
«Не можа быць,— падумаў,— пабаяцца
Мне даць адпор, калі я да авец
Як бура падлячу, з налёту.
Якраз адчыненыя ўжо вароты.
Ану, гайда!» Які тут быў канец,
Не цяжка здагадацца:
З жыццём ваўчузе давялося развітацца,—
Калоў не вытрымалі воўчыя бакі.

---

Капіталісты — горшыя ваўкі.
Але і ім не варта праяўляць драпежнага геройства.
Мы маем чым адпор любому зверу даць.
Запомніце, паны: на нас вам нападаць —
Са-ма-за-бой-ства.

# ЗМЕСТ

**Корбан, Уладзімір.**
Не на сваім месцы. Мінск, «Беларусь», 1965.
128 с. Бел2

На белорусском языке
Владимир Иванович Корбан
НЕ НА СВОЕМ МЕСТЕ

Рэдактар **С. Гаўрусёў**
Мастацкі рэдактар **Л. Прагін**
Тэхнічны рэдактар **В. Багрый**
Карэктары **А. Каралёва і М. Аўрамава**

АТ 08519. Здадзена ў набор 16/IX-1965 г. Падп. да друку 7/XII-1965 г. Тыраж 5 000 экз. Фармат $70\times108^{1}/_{32}$. Фіз. друк. арк. 4. Ум. друк. арк. 5,6. Уч.-выд. арк. 4,04. Зак. 1114. Цана 23 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа
Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў
Беларускай ССР па друку. Мінск, Чырвоная, 23.

